ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 22 (2601)
ПЯТНІЦА 2 чэрвеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# ТЭАТР З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ

МАБЫЦЬ, няма большага хвалявання для работнікаў мастацтва, як выпраўляцца ў госці да сяброў, як дзяліцца сваімі адкрыццямі і здабыткамі з суседзямі. Артысты патрэбу ў такіх падарожжах адчуваюць асабліва глыбока ўлетку, калі нас клічуць гастрольныя маршруты. І так радуе знамянальны факт лета 1972 года — пачынаюць яго ў Мінску пасланцы Масквы, артысты славутага Малога тэатра!

Здаецца, кожнага з іх аматары сцэнічнага мастацтва ведаюць як блізкага чалавека — імя і імя па бацьку, ганаровае званне, рэпертуарны спіс ролей... Скажам, падумаеш пра вобраз маці на рускай сцэне — адразу ў памяці незабыўная галерэя вобразаў, створаных цудоўнай актрысай Марыяй Міхайлаўнай Блюменталь-Тамарынай: яны з табой, яны дарагія табе. Або подзвіг Аляксандры Аляксандраўны Яблачкінай — гэта прыклад, узор высокага і адказнага маральнага і творчага служэння Праўдзе на сцэне!.. І такімі імёнамі ганарыцца не толькі трупа нашых гасцей, а ўся руская культура.

Мы, артысты беларускай сталіцы, маем шчаслівую магчымасць глыбока адчуць багацце традыцый Малога тэатра, яго шуканні ў рэчышчы рэалістычнага мастацтва. Гэта для нас неабходна, павучальна. Спадзяёмся, і госці тут, у Мінску, а праз месяц і ў Маскве, куды купалаўскі тэатр выправіцца на гастролі, прысвечаныя 50-годдзю ўтварэння СССР, зацікавяцца здабыткамі аднаго з вядучых нацыянальных тэатраў краіны, мастацтвам беларусаў. І такі абмен нам патрэбен, ён радуе і спрыяе агульнаму росквіту.

Сардэчна запрашаем, сябры! Нашы сэрцы адкрыты вам!

Зінаіда БРАВАРСКАЯ,
народная артыстка БССР.



*Сталіца Беларусі вітала і вітае майстроў Малога тэатра ў часе іх гастрольных выступленняў, канцэртаў, фестываляў... З фотасюіты на тэму «Артысты Малога ў Мінску» мы выбралі тры.*

*Красавік 1962 года. На сцэне Рускага тэатра БССР імя М. Горкага ідзе спектакль «Улада цемры». Ролю Акіма ў ім выконвае госць з Масквы, народны артыст СССР Ігар Ільінскі. Яго партнёрам выступае заслужаная артыстка рэспублікі Вольга Захарава, якая іграе Матруну.*

*Красавік 1969 года. У філарманічнай зале гучыць Бетховен. І трагедыйныя радкі «Эгманта» Гётэ. Саліруе народны артыст СССР Міхаіл Цароў.*

*Май 1970 года. Папулярны артыст тэатра і кіно Міхаіл Жараў прымае ўдзел у свяце экраннага мастацтва ў Мінску. Яго пазнаюць на вуліцах і плошчах сталіцы, і—аўтографы, аўтографы... Фотааб'ектыў «схапіў» народнага артыста СССР М. Жарава на Цэнтральнай плошчы тым майскім днём...*

Фота Ул. КРУКА.





# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

**У Мінску 1 чэрвеня 1972 года адкрыўся V Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.**

**У парадку дня Пленума:**

**1. Аб выніках майскага (1972 г.) Пленума ЦК КПСС.**

**2. Аб задачах партарганізацый рэспублікі ў сувязі з абменам партыйных дакументаў.**

**3. Аб рабоце Брэсцкага абкома КП Беларусі па падбору, расстаноўцы і выхаванню кадраў у святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС.**

**4. Інфармацыя сакратарыята ЦК КПБ аб выніках праверкі стану спраў па ўдасканаленню кіравання ў міністэрствах і ведамствах рэспублікі.**

**З дакладам аб выніках майскага (1972 г.) Пленума ЦК КПСС выступіў першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў.**

**У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел: І. Я. Палякоў — першы сакратар Мінскага абкома КПБ, Я. І. Скурко (Максім Танк) — старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, А. І. Шутко — машыніст лакамабільнага дэпо станцыі Орша, У. С. Пілюта — першы сакратар Магілёўскага гаркома КПБ, В. Я. Дрозд — цялятніца калгаса «Радзіма» Драгічынскага раёна, А. В. Дзебалюк — член Ваеннага савета — начальнік палітупраўлення ЧБВА, А. Н. Сеўчанка — рэктар БДУ імя У. І. Леніна.**

**У аднадушна прынятай пастанове Пленум ЦК КП Беларусі цалкам адобрыў і прыняў да няўхільнага выканання рашэнні майскага (1972 г.) Пленума ЦК КПСС.**

**Пленум заслухаў даклад другога сакратара ЦК КП Беларусі А. Н. Аксёнава аб задачах партарганізацый рэспублікі ў сувязі з абменам партыйных дакументаў.**

**У спрэчках выступілі: Г. А. Крыулін — першы сакратар Магілёўскага абкома КПБ, Р. Р. Новік — сакратар Мінскага абкома КПБ, А. І. Магільніцкі — першы сакратар Гродзенскага гаркома КПБ, В. А. Агееў — першы сакратар Міёрскага райкома КПБ, М. Н. Грабянчук — першы сакратар Жлобінскага райкома КПБ.**

**Затым з дакладам — аб рабоце Брэсцкага абкома КП Беларусі па падбору, расстаноўцы і выхаванню кадраў у святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС — выступіў першы сакратар Брэсцкага абласнога камітэта КПБ У. А. Мікуліч.**

**Сёння, 2 чэрвеня, Пленум ЦК КПБ працягвае сваю работу.**

# ВЕРНАСЦЬ ЛЕНІНСКІМ ІДЭЯМ

Міхась КАЛАЧЫНСКІ

Летась восенню, будучы на 26-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН ў Нью-Йорку, я наведаў адзін з недалёкіх ад горада-тытана раёнаў — Горныя азёры. Мяне пазнаёмілі тут з сям'ёю, у якой гаспадыня і гаспадар— старыя настаўнікі-пенсіянеры. Аматары падарожжаў, яны былі ў Савецкім Саюзе і дома з гонарам паказвалі мне прывезеныя здымкі, паштоўкі, сувеніры.

Пасля дамашняй размовы гаспадарам захацелася паказаць свой пасёлак, яго славутасці. «Асядлаўшы» машыну, мы праехалі вузкія вулачкі і наблізіліся да галоўнай пасёлкавай магістралі. На павароце перад машынай вырас «санітарны заслон» — двое ў белых халатах з чырвонымі крыжамі на рукавах. У працягнутай руцэ аднаго з іх была металічная скарбонка для дробных манет. Машына спынілася, і гаспадыня, высунуўшыся з акенца, кінула ў скарбонку манету ў 25 цэнтаў. Уладальнікі легкавушак, што ішлі за намі, зрабілі тое ж самае. Я пацікавіўся, куды ж ідуць гэтыя зборы.

— На хуткую медыцынскую дапамогу,— адказала мая «вадзіцелька». — У нашай краіне многа долараў ідзе на вайну, а на тых, хто лечыць людзей, не хапае. Наш медпункт — урачы, сёстры, машыны хуткай дапамогі — на ўтрыманні саміх жыхароў...

Словы старой амерыканскай настаўніцы не раз ажывалі ў маёй памяці, калі я чытаў, якія вялікія сродкі забірае ў народа ЗША вайна, развязаная імперыялістамі ў Індакітаі, як многа матэрыяльных каштоўнасцей і духоўных сіл траціцца на розныя ваенныя падрыхтаванні, на выпуск сучаснай электроннай і атамна-ядзернай зброі. Разам з тым думалася: а ці нельга прыпыніць, абмежаваць гонку ўзбраенняў, вырашаць спрэчныя пытанні паміж дзяржавамі, асабліва паміж такімі магутнымі, як Савецкі Саюз і Злучаныя Штаты Амерыкі, не ваеннымі, а мірнымі сродкамі, шляхам перагавораў?

У. І. Ленін ніколі не ішоў, як вядома, на кампрамісы ў пытаннях тэорыі і ідэалогіі, вёў рашучую барацьбу з носьбітамі буржуазных плыняў у іх. Але ён, заўсёды прадбачлівы і мудры, цвёрда стаяў за тое, каб міждзяржаўныя адносіны будаваліся на ўзаемаразуменні, з поўным улікам інтарэсаў зацікаўленых бакоў, інтарэсаў народных мас той ці іншай краіны.

Ленінскія прынцыпы мірнага суіснавання краін з рознымі сацыяльнымі сістэмамі няўхільна ажыццяўляюцца ў знешне-палітычнай дзейнасці нашай партыі і ўрада. Яны, гэтыя прынцыпы, леглі ў аснову грандыёзнай Праграмы міру, выпрацаванай XXIV з'ездам КПСС, якая знаходзіць паслядоўнае ажыццяўленне на практыцы. Яшчэ адно сведчанне таму — вынікі перагавораў савецкіх кіраўнікоў з прэзідэнтам ЗША.

У дні, калі вяліся гэтыя перагаворы, сталіца нашай Радзімы стала цэнтрам увагі ўсёй міжнароднай грамадскасці. Пагадненні, што падпісваліся тут, замежныя журналісты і прагрэсіўныя палітычныя аглядальнікі называлі «каскадам важных рашэнняў». Гэта сапраўды так. Варта толькі падкрэсліць: важнасць іх у тым, што яны паляпшаюць клімат савецка-амерыканскіх адносін, служаць справе абмежавання найбольш грозных відаў зброі, справе захавання міру і міжнароднай бяспекі.

Падпісаныя Генеральным сакратаром ЦК КПСС Л. І. Брэжневым і Прэзідэнтам ЗША Р. Ніксанам «Асновы ўзаемаадносін паміж Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Злучанымі Штатамі Амерыкі», а таксама Дагавор і Часовае пагадненне, у якіх прадугледжваюцца абмежаванне сістэм супраць ракетнай абароны і некаторыя меры ў галіне абмежавання стратэгічных наступальных узбраенняў — дакументы, якія высока ацэньвае перадавая грамадскасць свету. Мы, савецкія людзі, як і нашы сябры— прыхільнікі міру за мяжой, бачым у іх перамогу ленінскіх прынцыпаў мірнага суіснавання, увасабленне сваіх жаданых надзей жыць, не ведаючы ваеннага ліхалецця, аддаваць усе сілы стваральнай працы ў імя шчаслівай будучыні, імя якой — Камунізм.

# ТЭАТР З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ

ДА ГАСТРОЛЯЎ ДЗЯРЖАЎНАГА ОРДЭНА ЛЕНІНА АКАДЭМІЧНАГА МАЛОГА ТЭАТРА САЮЗА ССР

**ГЭТА — ПАДЗЕЯ ў культурным жыцці Беларусі. Адзін са старэйшых рускіх тэатраў упершыню ў поўным складзе прыехаў да нас, у сталіцу рэспублікі, на гастролі. Сузор'е славутых акцёрскіх імёнаў. Багаты на арыгінальныя драматургічныя творы рэпертуар. Розныя рэжысёрскія почыркі стваральнікаў спектакляў па класічных і сучасных п'есах.**

**Сёння ўвачары адкрыецца заслона, і мінчане ў сябе дома, не з блакітнага экрана тэлевізара і не з кінастужкі, а са сцэны пачуюць жывое і маляўнічае рускае слова, іх захопіць тэмперамент і эмацыянальны напал выканаўцаў роляў, яны паглыбяцца ў свет перажыванняў яркіх чалавечых асоб, якія ў святле рампы ўзбуйнена і праўдзіва пакажуць радасці і пакуты, шуканні і барацьбу чалавека за сапраўднае шчасце.**

**Малы тэатр... Неўзабаве яму будзе 150 гадоў. Духоўнае жыццё некалькіх пакаленняў людзей краіны праходзіла разам а ансамблем выдатных майстроў праўдзівага і ваяўнічага мастацтва, і нездарма гэты ансамбль перадавыя людзі свайго часу калісьці называлі другім Маскоўскім універсітэтам. Калі на пачатку рэвалюцыйных перамен у краіне грамадскасць маладой тады Савецкай рэспублікі адзначала стагоддзе Малога тэатра, першы нарком асветы А. Луначарскі гаварыў, што ў выкананні яго «Гора ад розуму», «Рэвізор», карціны «цёмнага царства» Астроўскага, сатыры Сухаво-Кабыліна, тэатр Шылера, Шэкспіра, Гюго ператвараліся ў адкрытыя ўдары па пануючым над Расіяй духу цемры, і тэатру наперабой выдавалі хвалу ўзрушанымі галасамі Бялінскія і Дабралюбавы. «Цяжка ўявіць сабе рускага сацыёлага, які захацеў бы далучыцца да канкрэтнага матэрыялу рускай грамадскасці і сацыялагічна даследаваць яго і які мог бы абысці Грыбаедава, Гогаля і Астроўскага, — пісаў А. Луначарскі ў газеце «Правда» 29 кастрычніка 1924 года. — Для поўнага ж разумення іх драм і камедый як выключных па сіле і значнасці дакументаў неабходна знаць трактоўку іх у Малым тэатры, бо гэта трактоўка была сапраўды класічнай у тым сэнсе, што было дасягнута зліццё паміж аўтарам, сцэнай і публікай».**

**Калі гаварыць пра лепшыя традыцыі гэтай сцэны, якраз такая рыса— уменне даць мастацкі адказ на самыя надзённыя грамадскія запатрабаванні часу — і ёсць адна з самых каштоўных у дзейнасці нашых сёлетніх гасцей з Масквы. Яна была ўласціва тэатру ў мінулым і набыла яшчэ больш акрэслены ідэйны кірунак у гады Савецкай улады. Высокая героіка, мастацкая прастата і глыбокая жыццёвая праўда —вось прыкметы лепшых спектакляў і сцэнічных вобразаў, што ствараліся і ствараюцца творчым калектывам Малога. Ён выступаў і выступае песняром чалавека рэвалюцыі, калі іграе п'есы А. Луначарскага і Б. Рамашова, К. Транёва і Л. Ляонава, У. Біля-Белацаркоўскага і Ф. Панфёрава, Б. Лаўранёва і А. Карнейчука, творы, дзе духоўнае багацце асобы, захопленай перадавымі ідэаламі стагоддзя, раскрываецца ў вострых сацыяльных і маральных канфліктах, і такі герой прадстае мужным змагаром і адданым патрыётам. Мастацтва Малога тэатра, якое гартуецца ў садружнасці з вядучымі сучаснымі драматургамі краіны, паказвае плён і вялікія, неабмежаваныя магчымасці для сцвярджэння ў вобразна-мастацкай форме праўды жыцця метаду сацыялістычнага рэалізму. У лепшых спектаклях тэатра гледачы адчуваюць і рэальнасць адлюстраваных падзей, якія нібы адбываюцца зараз, і іх гістарычную перспектыву, сацыяльны падтэкст.**

**Агульнавядомая высокая сцэнічная культура акцёрскага мастацтва нашых гасцей. Ад пакалення да пакалення артысты перадаюць як першую запаветную якасць павагу да аўтарскага слова (яго ў тым жа артыкуле А. Луначарскі называў «сацыяльнай зброяй» акцёра і тэатра наогул). Нават у хрэстаматыйным літаратурным партрэце П. Мачалава ў ролі Гамлета, зробленым некалі В. Бялінскім, мы чуем артыстычнае гучанне голасу, адценні і нюансы сцэнічнай мовы выдатнага рускага трагіка, артыста Малога тэатра. А дынастыя Садоўскіх! Шчэпкін і Ярмолава, Астужаў і Пашэнная, Гогалева і Зубаў, Южын і Цароў... Якое імя ні назаві, перш-наперш прыгадваеш гэта — празрыстую чысціню ў перадачы тэксту ролі.**

**Не менш прывабная і даведзеная**

# СЁННЯ І ЦЭЛЫ МЕСЯЦ

*Інтэрв'ю з галоўным рэжысёрам Малога тэатра народным артыстам Саюза ССР Барысам Іванавічам РАВЕНСКІХ*

Ёсць шчаслівыя тэатральныя калектывы — яны не маюць патрэбы ў рэкламе. Варта толькі з'явіцца на стэндах звычайным сціплым афішам з паведамленнем аб прыездзе, як сотні, тысячы людзей за некалькі дзён выкупляюць у тэатральных касах усе білеты. Так было зусім нядаўна, калі стала вядома аб прыездзе ў Мінск Малога тэатра. Дзіву іншы раз даешся, адкуль такая дасведчанасць. У аўтобусе, на трамвайным прыпынку, у кафэ можна пачуць размовы пра тэатр, пра тое, як хвалюе і радуе сустрэча з праслаўленымі майстрамі сцэны, пра тое, што, на жаль, мала спектакляў прывёз у Мінск славуты калектыў. Менавіта ў гэтым тэатры, які невыпадкова называюць «домам Астроўскага», хацелася б бачыць больш спектакляў па п'есах вялікага драматурга. Вельмі прыемна, што ўрэшце ўдасца пабачыць «Уладу цемры», бо шмат чулі пра гэты спектакль. Сапраўды, вось ужо пятнаццаць гадоў не сыходзіць ён са сцэны і заўсёды трапіць на яго цяжка. Па-ранейшаму ў ім заняты Міхаіл Жараў, Ігар Ільінскі, Алена Шатрова — амаль усе старыя выканаўцы. Толькі Мікіту замест В. Дароніна зараз іграе народны артыст РСФСР В. Коршунаў. Што зробіш— гады ідуць... Ніякая цемра не можа загубіць у чалавеку светлае і сапраўднае, — так прачытаў п'есу тэатр і яго цяперашні галоўны рэжысёр Б. Равенскіх. З ім і гутарыла карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» І. Пісьменная.

**— Нашым чытачам, а вашым будучым гледачам, вельмі хочацца знаць пра тэатр як мага больш. Сёлетнія гастролі тэатра прысвячаюцца 50-годдзю ўтварэння СССР. Як тэатр збіраецца адзначыць гэтую дату?**

— Здаецца, будзе цікава. Выбралі мы цудоўную п'есу малдаўскага драматурга І. Друцэ «Птушкі нашай маладосці», п'есу паэтычную, чалавечную. Ставіць яе будзе рэжысёр І. Унгурану, які (таксама, як мастак і кампазітар) запрошаны з Малдавіі. Рэпетыцыі ўжо пачаліся. Галоўная роля цётухны Руцы даручана вядомай артыстцы Руфіне Ніфантавай. Думаецца, што выбар актрысы гаворыць сам за сябе...

Прыемна адзначыць, што на сцэнах нашых тэатраў шырока ідуць п'есы, якія нарадзіліся ў братніх рэспубліках. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца творы ўкраінца М. Заруднага, беларуса А. Макаёнка, грузіна Н. Думбадзе, башкіра М. Карыма і інш. Шматгадовае сяброўства звязвала наш тэатр з А. Карнейчуком. Мінчане ўбачаць у час гастроляў п'есу эстонскага драматурга Э. Ранета «Крымінальнае танга».

Што датычыць сучаснай п'есы — тут працэс агульны для ўсіх: шукаем, знаходзім, ставім. Нядаўна адбылася прэм'ера спектакля «Самы апошні дзень». Спачатку ў часопісе «Юность» з'явілася аднайменная аповесць Б. Васільева, якая выклікала цікавасць. Нам здалося, што яна прагучыць і са сцэны. У гэтым спектаклі галоўную ролю Сямёна Мітрафанавіча Кавалёва— малодшага лейтэнанта міліцыі, які збіраецца на пенсію,— выконвае народны артыст СССР М. Жараў. Для Малога тэатра пішуць п'есы многія пісьменнікі, некаторыя ўпершыню спрабуюць сябе ў драматургіі. Напрыклад, Васіль Бялоў, проза якога карыстаецца шырокай папулярнасцю. «Апошні дом Каменкі» — так будзе называцца яго п'еса на сельскую тэму. Пра

# Дні Балгарскай літаратуры ў Беларусі

**Закончыліся Дні балгарскай літаратуры ў Беларусі. На працягу тыдня на нашай зямлі гучала слова братняй славянскай краіны, адбываліся сустрэчы шматтысячнай арміі нашых чытачоў з балгарскімі і беларускімі пісьменнікамі. Сталіца рэспублікі перадала эстафету гасціннасці Брэсту, Гомелю і Магілёву, дзе пасланцы Балгарыі сустракаліся з рабочымі і калгаснікамі, студэнтамі і школьнікамі. Дні балгарскай літаратуры вылiліся ў яркую дэманстрацыю непарушнай дружбы і братэрства нашых краін, нашых народаў, нашых культур. За плённую дзейнасць па ўмацаванню дружбы паміж балгарскім і савецкім народамі і вялікую работу па прапагандзе беларускай савецкай літаратуры ў Балгарыі Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў Ганаровай граматай Дзімітра Ангелава, Найдана Вылчава, Андрэя Германава і Івана Давыдкава.**

**Увечары 28 мая грамадскасць беларускай сталіцы цёпла праводзіла дэлегацыю Усенароднага камітэта балгара-савецкай дружбы на радзіму.**

## *ТАМ, ДЗЕ БУГ І БЕЛАВЕЖА*

Гасцінна і сардэчна сустракала пасланцоў братняй Балгарыі брэсцкая зямля. Ездзілі туды пісьменнік Дзімітр Ангелаў і паэт Іван Давыдкаў. Разам з імі быў першы сакратар пасольства НРБ у Маскве Іван Грыгораў.

Брэсцкая зямля густа паліта крывёю савецкіх воінаў. І, мусіць, натуральна, што першы маршрут балгарскіх пасланцоў пралёг туды, у Брэсцкую крэпасць-герой, да святых руін, што так уражліва апавядаюць пра народнае гора і народную мужнасць. Балгарскія госці ўсклалі вянок на чорны мармур, пад якім ляжаць астанкі вядомых і невядомых герояў. Мінута маўчання, мінута роздуму пра вечнасць памяці.

А пазней у святочна прыбраным Доме палітасветы адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны святу балгарскай асветы, культуры, славянскай пісьменнасці і балгарскага друку і Дням балгарскай літаратуры ў Беларусі. Сяброў з НРБ цёпла вітаў сакратар Брэсцкага гаркома партыі А. Грыдэнка, а таксама кандыдат філалагічных навук Л. Храмава. Са словам у адказ выступіў першы сакратар пасольства НРБ у Маскве І. Грыгораў. Ён сказаў:

— Мы глыбока ўзрушаны і ўсхваляваны цеплынёй і сардэчнасцю, з якой сустракаюць прадстаўнікоў Балгарыі працоўныя Брэста і ўвесь беларускі народ. Наш прыезд да вас, у Беларусь, будзе садзейнічаць далейшаму ўмацаванню дружбы паміж народамі Балгарыі і Савецкага Саюза.

Іван Давыдкаў, усё яшчэ знаходзячыся пад ўражаннем, вынесеным са свяшчэнных руін Брэсцкай крэпасці, з хваляваннем гаварыў аб велічы подзвігу савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны:

— Гэты подзвіг здзейснілі не толькі сыны і дочкі савецкай краіны. Яго здзейснілі і мацяркі. Яны доўга чакалі дамоў сваіх сыноў, сыны не прыйшлі, а прыйшла да іх вечнасць.

Назаўтра, 26 мая, балгарскія госці прысутнічалі ў брэсцкім кніжным магазіне «Іскра» на адкрыцці выстаўкі-продажу твораў балгарскіх і беларускіх пісьменнікаў. Гасцей вітаў дырэктар аблкнігагандлю А. Кірылін, супрацоўніца абласной бібліятэкі А. Яцэвіч. Ад імя балгарскай дэлегацыі выступіў Іван Давыдкаў.

Пакупнікам, якія сабраліся ў кнігарні, быў прадастаўлен вялікі выбар літаратуры, прысвечанай гісторыі і культуры Балгарыі. Многія з іх панеслі адсюль кнігі з аўтографамі балгарскіх і беларускіх пісьменнікаў — празаікаў і паэтаў. Нашы чытачы добра ведаюць раман Дзімітра Ангелава «Калі чалавека не было». Аўтар на тытульным лісце рамана напісаў: «На памяць маім брэсцкім чытачам з гарачай любоўю і ўдзячнасцю». Кніга з гэтым аўтографам падаравана ім Брэсцкай абласной бібліятэцы.

Балгарскія госці сустрэліся таксама са студэнтамі і выкладчыкамі філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута, пабывалі ў калгасах «Новы шлях» Кобрынскага раёна і «Савецкая Беларусь» на Камянеччыне, пазнаёміліся з цудоўным куточкам беларускай зямлі — Белавежскай пушчай.

Пачуцці сапраўднай дружбы і еднасці паўсюдна суправаджалі балгарскіх гасцей. Іншы раз я забываў, што побач з табой людзі з іншай краіны. Сапраўды, дружба яднае аднадумцаў у адну сям'ю. І еднасць, і дружба гэтыя не плакатныя, а шчырыя, братэрскія. Спадзяюся, што балгарскія таварышы павезлі з сабой не толькі ўспаміны пра шчырыя ўсмешкі, пышныя кветкі і поціскі нашых рук, а — самае галоўнае — пачуццё невыказнага адзінства і шчырасці.

**Ул. ПАЎЛАЎ.**

## ДАРОГАМІ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

Да прыезду дарагіх гасцей з братняй Балгарыі калгаснікі калгаса «Рассвет» імя К. Арлоўскага Кіраўскага раёна спяклі вялікі румяны каравай. Паднесла яго Герой Сацыялістычнай Працы Галіна Пятроўна Елісеенка. Першаму пакаштаваць рассветаўскі каравай давялося балгарскаму паэту Найдану Вылчаву. «Смачна, вельмі смачна!» — радасна сказаў ён па-беларуску.

Так пачалася 25 мая паездка групы дэлегацыі балгарскіх пісьменнікаў па Магілёўшчыне. Разам з балгарскімі паэтамі Найданам Вылчавым і Андрэем Германавым у калгас «Рассвет» прыехалі Ніл Гілевіч і Анатоль Грачанікаў, а таксама загадчык аддзела Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Алена Рамановіч.

У праўленні калгаса старшыня Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў, расказваючы пра поспехі гаспадаркі за апошні год, пра вынікі веснавой сяўбы, між іншым зазначыў:

— Многае, што мы скарысталі з сяброўскіх парад кааператараў гаспадаркі «Боцеўградская камуна» на Плоўдзіўшчыне ў Балгарыі. Мы бывалі там, у нас гасціў былы старшыня кааператыва Васіл Цанаў.

Госці агледзелі палеткі калгаса, пабывалі на механізаванай свінагадоўчай ферме, у кароўніках, на будаўніцтве калгаснага палаца культуры, які ўзводзіцца па арыгінальным праекце архітэктара Г. Заборскага.

Расказалі рассветаўцы і пра работу мясцовага аддзялення таварыства савецка-балгарскай дружбы. У школе адбыўся вялікі сход, дзе гучалі вершы на балгарскай і беларускай мовах, а ў заключэнне школьны хор выканаў, побач з песнямі беларускіх кампазітараў, «Рэха» балгарскага кампазітара Хаджыева.

— За дваццаць з нечым гадоў, — сказаў на развітанне Андрэй Германаў, — беларусы аднавілі жыццё ў сваёй краіне, якая больш за ўсіх перанесла пакут і разбурэнняў у мінулай вайне. Залячыўшы раны, беларусы засталіся такімі ж шчырымі, ветлівымі, высакароднымі людзьмі, у іх сэрцах — высакароднасць чалавека, які перамог. Дзякуй вам за гэта і за тое, як вы сустракаеце прадстаўнікоў Балгарыі.

А назаўтра гасцей ветліва сустракаў Магілёў. У гэты дзень усюды ў горадзе чулася балгарская мова: да магіляўчан прыехаў турысцкі поезд дружбы з далёкага Габрава, з якім яны сябруюць і спаборнічаюць. Днём адбылося адкрыццё выстаўкі-продажу балгарскай літаратуры ў магазіне «Веды». Яе адкрыў у прысутнасці балгарскіх гасцей і нашых пісьменнікаў начальнік абласнога ўпраўлення друку М. Платонаў. Амаль адразу раскупілі «Сафійскія апавяданні» К. Калчава, аднатомнік вершаў І. Вазава, зборнік «Габраўскія жарты». Вялікую цікавасць выклікала літаратура пра жыццё і дзейнасць правадыра балгарскіх працоўных Г. Дзімітрова, шматлікія альбомы з рэпрадукцыямі твораў балгарскіх мастакоў, фотаальбомы, выданні-даведнікі.

Незабыўнае ўражанне пакінула ў гасцей наведванне буйнейшага ў Еўропе Магілёўскага камбіната сінтэтычнага валакна. Гэта самае маладое прадпрыемства ў рэспубліцы — сярэдні ўзрост яго рабочых складае 22,9 года.

— Я бачу тут будучыню Беларусі, — усхвалявана гаворыць Андрэй Германаў. І, трымаючы ў руках белую штапельную шэрсць, канчатковую прадукцыю камбіната, дадае: — Я напісаў верш «Беларускі снег», які перакладзены на беларускую мову і вядомы вашым чытачам. І не ведаў, што вось гэта — сапраўдны беларускі снег!

У шэсць гадзін вечара ў перапоўненай зале Летняга тэатра Магілёва пачаўся вялікі вечар балгара-савецкай дружбы. Старшыня абласнога аддзялення таварыства савецка-балгарскай дружбы, намеснік старшыні аблвыканкома У. Дайнека расказаў пра работу аддзялення, пра ўзаемасувязі Магілёўскай вобласці і Габраўскай акругі Балгарыі. Самыя шчырыя словы дружбы гучалі ў выступленнях Ніла Гілевіча, Найдана Вылчава, Андрэя Германава, у выступленнях прадстаўнікоў працоўных горада, у выступленні выкладчыка Габраўскай партшколы Нікалая Ангелава Стэфанава. «Вечная дружба!», «КПСС — БКП!» — гэтыя воклічы яшчэ і яшчэ раз паўтаралі ўсе, хто сабраўся ў зале.

...Гомельшчына, старадаўні Чачэрск. Там, дзе зліваецца Сож і Чачэра, узнялася Замкавая гара. Тут пахавана слаўная балгарская патрыётка Лілія Карастаянава, якая змагалася ў адным з партызанскіх атрадаў на Гомельшчыне.

## ПРЫЗ НАЗЫВАЕЦЦА «ПАЛЕСКІ КРЫШТАЛЬ»

*ЭСТРАДНЫ КОНКУРС У САЛІГОРСКУ*

Тры дні на сцэне Салігорскага палаца культуры гарнякоў гучала эстрадная музыка. Самадзейныя эстрадныя аркестры і вакальна-інструментальныя ансамблі выступалі на конкурсе «Юнацтва Палесся». Журы конкурсу прызнала пераможцамі эстрадны аркестр Барысаўскага парку культуры і адпачынку і вакальна-інструментальны ансамбль «Вы, мы і гітары» Гомельскага дрэваапрацоўчага аб'яднання. Сярод першых вакалістаў — В. Мішына (Салігорск) і В. Блюм (Гомель). Многія калектывы ўзнагароджаны дыпломамі, прызамі, памятнымі падарункамі.

Трэба адзначыць, што большасць калектываў прыехала на конкурс добра падрыхтаванымі, з цікавай і разнастайнай праграмай. Барысаўчане накіравалі, акрамя аркестра, маладзёжны ансамбль «Вясновыя галасы», які заваяваў другое месца. Аб аркестры можна гаварыць без скідак на аматарства. Гэта зладжаны, высокамастацкі калектыў з выразным, добрым гучаннем, патрабавальны і ў сродках выяўлення і ў падборы музычнага матэрыялу. Ярка, тэмпераментна музыканты выканалі аркестравыя п'есы «Баса-асціната» Д. Смольскага, «Буяна» Г. Гараняна і шэраг іншых твораў, а «Вясновыя галасы» пакарылі сэрцы слухачоў песнямі «Пінская партызанская» (запіс Г. Цітовіча), «Александрына» Ул. Мулявіна, «Цёмная ноч» М. Багаслоўскага.

Публіка доўга не адпускала са сцэны гомельскіх аматараў эстраднай музыкі. Вельмі ўдала выступіў балалаечнік С. Драздоў, які ў суправаджэнні ансамбля выканаў рускую «Камарынскую», вынаходліва і дасціпна аранжыраваную. Выканаўцу ўручаны спецыяльны прыз. Добра прагучалі песні «Ты мне вясною прыснілася» і «Радзіме» Ю. Семянякі, «Мяцеліца» М. Шуміліна. Саліст В. Блюм валодае светлым, чыстым голасам, добрым густам.

На жаль, з-за арганізацыйных непаладак у конкурсе не ўдзельнічаў аркестр Салігорскага палаца культуры гарнякоў, калектыў тэхнічна моцны, з добрымі традыцыямі. Салігорцы вылучылі на конкурс ансамбль маладзёжнай песні пад кіраўніцтвам Г. Сіўцова. Салістка В. Мішына ў суправаджэнні вакальнай групы шчыра, задушэўна праспявала песню І. Лучанка «Жураўлі на Палессе ляцяць». Столькі пяшчотнасці, столькі светлага суму было ў гэтым творы, што забыць яго немагчыма. Калектыў узнагароджаны спецыяльным прызам — за лепшае выкананне песні аб Палессі і за лепшую аранжыроўку.

Мог бы прэтэндаваць на адно з прызавых месц і Кобрынскі эстрадны аркестр. Калектыў неблагі, зладжана гучаць трубы, трамбоны — наогул медная група. Але прэтэнцыёзны рэпертуар з твораў, далёкіх ад дасканаласці (некаторыя з іх належаць кіраўніку аркестра В. Арасланаву), знізіў агульнае ўражанне. Звяртае на сябе ўвагу і аднастайнасць аркестровак.

Эстрадны калектыў «Эўрыка» (Баранавічы), які заняў другое конкурснае месца, хоць арганізаваны параўнаўча нядаўна, ужо мае свой творчы почырк, уласную манеру выканання. Мяккі, ненадакучлівы акампанемент, празрыстае гучанне вакальнага жаночага квартэта, добрая падрыхтоўка дыксіленда сведчаць аб значных магчымасцях калектыву. Хораша праспявала песню І. Кузняцова «Нарадзілася



Сакратар Салігорскага гарадскога камітэта камсамола Марыя Валынец уручае грамату Сяргею Драздову; спявае салістка вакальна-інструментальнага ансамбля «Раніца» Смалявіцкай птушкафабрыкі электраслесар Ларыса Смірнова.

## ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ

# ПАМЯЦЬ СЭРЦА

**«ПОЛЫМЯ»**

У ПЯТАЙ КНІЖЦЫ «Полымя» побач з іншымі матэрыяламі досыць шырока прадстаўлена мастацкая проза. Сярод празаічных твораў сваёй антываеннай накіраванасцю вылучаюцца апавяданні Барыса Сачанкі і Алеся Асіпенкі.

Той, хто знаёмы з творчасцю Б. Сачанкі, можа прыгадаць шэраг зборнікаў апавяданняў і аповесцей аўтара, якім быў уласцівы высокі антываенны гуманістычны пафас, якія апавядалі нам аб суровых і цяжкіх гадах вайны, змрочным часе гітлераўскай акупацыі. Здавалася б, ужо вычарпана гэтая важная тэма ў творчасці пісьменніка. Досыць шырока асэнсаваны, увасоблены ў мастацкіх вобразах уражанні далёкага дзяцінства, абпаленага вайной, эмацыянальна перададзены ў творах найбольш хвалюючыя эпізоды і яркія біяграфічныя моманты. Здавалася б... Ды вось пісьменнік зноў звяртаецца да мінулага, памяць сэрца настойліва кліча яго ўяўленне на старыя шляхі-дарогі. І ён зноў, паводле слоў В Кетлінскай, «піша аб тым, што б'ецца ў яго душу і аб чым ён пісаць не можа». Тым больш, што з пазіцыі сённяшняга дня, з вышыні сталасці многае асэнсоўваецца ім больш глыбока і мудра. Менавіта так успрымаецца з'яўленне на старонках «Полымя» апавяданняў Б. Сачанкі з кнігі «Чужое неба».

Пры ўсёй уважлівасці да падзей, часам выключна трагічных, Б. Сачанка, аднак, не робіць галоўнага акцэнту на сітуацыях—для яго перш-наперш важна «памяць сэрца», тое, які след пакінулі падзеі ў свядомасці лірычнага героя. Таму, відаць, ён і не ўдзяляе сюжэтна-кампазіцыйнай арганізацыі матэрыялаў нейкай асаблівай увагі. Сам па сабе жыццёвы факт дае яму толькі глебу для роздуму над складанасцю чалавечага быцця, над тымі душэўнымі ранамі, што пакінула пасля сябе вайна людзям. Роздум гэты, нярэдка страсна публіцыстычны, прасякнуты хвалюючым лірызмам, уласцівы пісьму Б. Сачанкі наогул.

«Усё, усё можа забыцца, толькі не пажар той, не дзень, калі прыехалі карнікі паліць нашу вёску! Такое не забываецца, не, не забываецца, помніцца, заўсёды будзе помніцца, аж покі жыць будзеш. І цяпер, праз колькі гадоў, бывае, прахопішся на досвітку, як прахапіўся тады, у той чэрвеньскі ранак, і закрычыш нема на ўсю хату. —а-а-а-а-а!.. Потым ляжыш, не могучы ніяк супакоіцца, а ў вачах—і тая старая дзедаўская хата з гнілымі, паточанымі шашалем маснічынамі, што згарэла тады, бацька, маці, браты, што мітусяцца, бегаюць па хаце, два з закасанымі па локаць рукамі немцы з аўтаматамі, што адчынілі дзверы і стаяць у парозе, нешта загадваюць, гергечуць...»

Так піша Б. Сачанка ў апавяданні «Вёска майго маленства», уражваючы нас страшэннай праўдай вайны, гэтымі своеасаблівымі выкрывальніцкімі дакументамі. Як пісьменнік, як сведка падзей, урэшце, як прадстаўнік свайго пакалення, якому выпала многае перажыць, ён мае падставу сцвярджаць вуснамі аднаго са сваіх герояў: «Хай бы кожны падумаў яшчэ і яшчэ раз, што гэта такое—**вайна**. Расказаць праўду пра вайну—гэта, калі хочаш, абавязак усіх тых, хто яе бачыў, перажыў. І не толькі тых, хто быў у акопах, наступаў і адступаў, але і тых, хто быў у тыле...»

«Расказаць праўду пра вайну»... З усімі яе складанымі драматычнымі і гераічнымі перыпетыямі... Пра яе можна расказваць па-рознаму. Адны пісьменнікі ствараюць шырокія эпічныя палотны, паказваючы гераічную барацьбу з фашызмам на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў тыле ворага. У другіх, як у Б. Сачанкі, у полі зроку толькі адна-адзіная родная вёсачка—Бароўкі, яе жыхары і ўсё тое, што з імі адбываецца ў ваеннае ліхалецце дома і на чужыне. І нельга не пагадзіцца з матывіроўкай пісьменніка: «Калі кожны будзе помніць сваё, усе разам будуць помніць усё...» А помніць—трэба! Пісьменнік успамінае, як бы робіць экскурс у мінулае, адцяняючы гэтае змрочнае мінулае светлымі рысамі сённяшняга мірнага дня. Вось ён гаворыць пра сучасныя Бароўкі, пра радасць сустрэч з аднавяскоўцамі, пра хараство роднай прыроды, гэткай мілай з дзяцінства, і тут жа прыгадвае і вёску, і сваіх родзічаў у ваенныя гады, і «чужое неба» Нямеччыны, пад якім давялося перажыць ім неймавернае гора, вынесці неверагодныя здзекі... Але і ў тым жудасным становішчы нявольнікаў савецкія людзі, як паказвае аўтар, зберaглі пачуццё ўласнай годнасці, сваё сумленне, засталіся вернымі свайму грамадзянскаму доўгу, Радзіме. Такі, у прыватнасці, «дзядзькі Патапа зяць Грыцько», вобраз якога намаляваны вельмі яркімі фарбамі. Такі ж і сам дзядзька Патап (апавяданне «Грыцько»)...

Але ж сярод простых сумленных людзей траплялiся і здраднікі. Іх не абмінае пісьменнік. Наадварот, ён лічыць сваім абавязкам паказаць іх гнілое нутро, выкрыць іх здрадніцкую мараль. Перад намі праходзіць цэлая галерэя гэтых нікчэмных людзей, гэтых сапраўдных вылюдкаў. Вось змяіная сямейка Радчукоў, бацька і сыны якой «усе як адзін запісаліся ў паліцыю»: тыя, «на каго толькі паказвалі Радчукі пальцамі, былі расстраляны разам з жонкай і дзецьмі»... Вось Мецька, аднаасобнік, што так і не змог стаць у калектыве вяскоўцаў сваім, што данёс на сваіх жа карнікам. Гэткі ж і паліцай Грышка Пузач—з ім за ўсе здзекі расправіліся самі вяскоўцы, «каламі забілі, без усялякага суда»... І добра, што Б. Сачанка ў сваіх апавяданнях, як мастак-даследчык, не абмяжоўваецца адным паказам здраднікаў, а імкнецца адказаць на складанае пытанне: як, у якіх абставінах нараджаюцца, адкуль бяруцца карані здрады...

У гэтым сэнсе цікавымі ўяўляюцца апавяданні Алеся Асіпенкі «Маці» і «Шчырэц і Цыцуля», асабліва апошняе. З добрай мастацкай пераканаўчасцю аўтар раскрывае нам псіхалогію здрадніка, злачынны утылітарызм яго жыццёвай пазіцыі: уратавацца, зберагчы сваё жыццё, чаго б гэта ні каштавала. На шляху да гэтай ганебнай мэты чалавек губляе чалавечнасць. Для яго ўжо не існуе нічога святога. У апавяданні «Маці» такі Хвядос. Здрадзіўшы сябрам-партызанам, уцёкшы з поля бою, ён туляецца, а потым, нарэшце, ідзе вымольваць у паліцэйскіх права на жыццё. Больш трагічна заканчваецца гісторыя здрады паліцая Цыцулі з апавядання «Шчырэц і Цыцуля». Агідны вобраз гэтага прыстасаванца выпісаны даволі выпукла, рэльефна, праўдзіва. Ён гатоў служыць любому—у каго сіла... Гэта цяжка зразумець партызанскаму разведчыку Лёшку Шчырцу, сумленнаму, добраму сэрцам, але трошкі наіўнаму хлопцу, які захапіў у палон і даставіў у партызанскі атрад паліцая. У апавяданні ёсць такі красамоўны дыялог... Лёшка па дарозе ў атрад пытаецца ў Цыцулі:

— Дык чаго ж ты, гад, і нашым і вашым служыш?

— Я іць не дурань. Мяне ў Суранях заўсёды з'есці хацелі. Думалі—немцы прыйшлі, дык і канец Цыцулю. Дудкі!

— Шкуру, значыць, ратаваў?

— А што, і ратаваў... Дзяцей вунь поўны запечак.

— Ну і сволач ты...

Нягледзячы на тое, што партызаны даравалі Цыцулю жыццё, прынялі яго ў атрад, у гаспадарчы ўзвод,—той застаецца верным сваёй філасофіі прыстасаванца, здрадніка да канца, ён гатовы перакінуцца да ворага ў зручны час. І такі момант надараецца—калі яны з Лёшкам едуць у вёску за прадуктамі для атрада... Цыцуля, карыстаючыся выпадкам, наводзіць на партызан немцаў. Смерцю Лёшкі Шчырца купляе ён сабе жыццё. Далей каментарыі, як кажуць, непатрэбны. У драматычнай і трагічнай канцоўцы апавядання яшчэ раз выразна падкрэслена аўтарская канцэпцыя: для чалавека з псіхалогіяй здрадніка крытэрыі дабра, сумлення не існуюць.

Я наўмысна не ўдаваўся ў падрабязнасці зместу і формы апавяданняў Б. Сачанкі і А. Асіпенкі, хацелася засяродзіць увагу толькі на галоўным: на іх ярка выражанай антыфашысцкай, антываеннай накіраванасці, на імкненні паставіць і вырашыць пэўныя сур'ёзныя маральна-этычныя пытанні. У гэтым—бясспрэчная каштоўнасць твораў. Яны ўражваюць, уваскрашаючы старонкі незабыўнага мінулага, заклікаюць нас сцерагчы мір і спакой на зямлі, што былі заваяваны такой дарагой цаной у грозныя гады вайны.

**Яўген КАРШУКОЎ.**

---

**«МАЛАДОСЦЬ»**

# БЯРОЗЫ, РОСЫ... І ПАЭЗІЯ

НЕЯК у размове з адным празаікам мы спрачаліся аб паэзіі. Высветлілася, што густы нашы ў многім супадаюць. «А ці чытала ты апошні нумар «Маладосці»? — спытаўся мой таварыш. — Пацікаўся, новае папаўненне ідзе ў нашу літаратуру, добрыя вершы ёсць». Тады я яшчэ не прачытала. Цяпер майская кніжка «Маладосці» ў мяне ў руках. «Маладосць», адразу прызнаюся, мой любімы часопіс. Праз «Маладосць» па добрай завядзёнцы прыходзілі ў літаратуру многія пісьменнікі, чые імёны сёння добра вядомыя чытачам. На яго старонках стартавалі і сталелі лепшыя паэты майго пакалення: Пятрусь Макаль, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Сцяпан Гаўрусёў і іншыя. Сёння гэтыя паэты—сталыя аўтары часопіса. Але «Маладосць»—часопіс, які штогод дорыць нам цікавыя сустрэчы з маладымі, невядомымі. І, беручы новую кніжку, я з асаблівай цікавасцю чытаю творы, падпісаныя невядомымі або малавядомымі аўтарамі. З цікавасцю я ўчытвалася ў шэсць невялікіх падборак маладых аўтараў, змешчаных у майскім нумары «Маладосці».

Не скажу, каб знаёмства з вершамі пакінула мяне абыякавай. Шэсць паэтаў, розных талентам і ўзростам, дзеляцца сваімі думкамі і перажываннямі з навакольным светам. Сярод іх—і зусім яшчэ маладая паэтэса Галіна Каржанеўская, якая не так даўно пачала выступаць у рэспубліканскім друку, і больш сталыя аўтары, якія маюць уласныя кніжкі вершаў—такія, як Сяргей Панізнік, Міхась Стрыгалёў, Мікола Кусянкоў. Усіх аб'ядноўвае паэтычны дар і лірычная, уласцівая юнацтву, успрыманне штодзённасці. Прачытаўшы вершы, можна вызначыць шмат агульнага ў шасці паэтаў, як гэта часта бывае ў людзей аднаго пакалення. Іх творчасць характарызуе адметнае, уражлівае пранікненне ў рэчаіснасць, аб'ядноўвае пошук нечага асаблівага, таго запаветнага і істотнага, пра што можна расказаць субяседніку-чытачу. Што хвалюе аўтараў «Маладосці»?

Надта ж зямля
прыцягальная гэта,
Надта ж трывалая
повязь тая,
Што мае сэрца
з Айчынай злучае.

Гэта піша Галіна Каржанеўская ў вершы, дзе крыху наіўна выказвае сваю адданасць жыццю і паэзіі:

Я не адна,
Я не ў воблаках,—дзе там!
Толькі б я верыла
ў долю паэта!
Толькі б бруіла натхнення
крыніца,
Дзе парадніліся
неба з зямліцай.

Пачуццё, здаецца, шчырае, аднак само гэтае выказванне застаецца, па сутнасці, безаблічным: замнога тут літаратурных умоўнасцей — тут і воблакі, і крыніца, і неба з зямліцай па-вучнёўску дэталізаваны. Мабыць, маладой паэтэсе не хапіла майстэрства, а можа яшчэ не знайшла яна ў сабе нечага вызначальнага. Вядома, нельга падыходзіць з акадэмічнай строгай меркай да верша пачаткоўца, ад Каржанеўскай (я памятаю яе ранейшыя вершы) можна і трэба патрабаваць большага—і больш дакладнай выверанасці думкі, больш уважлівага стаўлення да слова. На жаль, у гэтай падборцы вершы здаюцца паспешна напісанымі. Як думалася, так і склалася:

Гэта ж не маку чырвань,
Што ў зрэнкі
упарта лезе.
Бульба цвіце—не ружы.
Згубіўшыся ў фарбах лета...

Лірычны герой Міхася Стрыгалёва поўны ўспамінаў і роздуму аб родным краі. Але, на жаль, ён амаль нідзе не выбіваецца з палону агульшчыны, карыстаецца, як кажуць, гатовымі словамі:

Перад бярозай схіляю калені.
Ствол шурпаты кранаю рукой.
Асцярожна маўклівыя цені
На мяне напльваюць з бакоў.
Хай шчымлівыя пахі айчыны
Нечакана нагоняць слязу.
Асыпаюць на блуднага сына
Шапаткія галіны расу.

Раса, сляза, цені, калені, галіны, сына, бяроза... Усё тут чутае, шмат разоў петае і перапетае. І не скажаш, што гэтыя бярозы ці воблакі наштурхнулі ўяўленне і думку паэта на нешта новае:

Вось і я, быццам воблак лятучы,
Каля роднай бярозы стаю.
І галлё прахалодай гаючай
Зноў душу ахінае маю...

Штучнасць і бледнасць думкі, банальнасць перажывання. Тое ж можна сказаць і пра другі верш М. Стрыгалёва «Перадранішняя балада». Міхась Стрыгалёў любіць «прыгожыя словы»: «А недзе на **казачна-белай** радзіме алешыны высяцца **ў прадчуванні...** І шэпчуць навокал **сівыя легенды** бывалыя елі, кержацкія елі... А там на радзіме, на **казачна-белай** цвітуць карагоды **бярозбеланожак...»** Але гэтыя словы—ўжо без зместу, без думкі.

Як не сумна прызнавацца, не надта вабяць мяне і вершы астатніх аўтараў. Вось чытаем Івана Арабейку:

А месяц быў як сам не свой,
І падпаліць хацеў салому.
Я вечнасць бавіў бы з табой,
Так не хацелася дадому...

І Мікола Кусянкоў наўрад ці зацікавіць чытача лірычнай гісторыяй, расказанай вельмі блытана і невыразна:

З дачкой кахаўся
Хлапец вясковы.
Цяпер жа на ім
Гарнітур вайсковы.

А вось верш Алеся Камароўскага:

Неба, грамамі бухні,
Прышлі беларускі дождж!
Не стыне ад вечара ў кухні
Ад спёкі казахскай боршч.

Не сказаць каб нова. Паэзія ў слове гіне, калі губляецца патрабавальнасць. Але адкуль гэтая кволасць, няпэўнасць, бледнасць думкі? Ад няспеласці пачуццяў ці ад няведання жыцця? Не будзем вырашаць гэтую праблему: яна існуе з дня нараджэння літаратуры. Лірыку стварыла чалавечае сэрца, а пачуцці людзей павінны быць шчырымі, асабліва ў паэзіі. Добра, калі паэт ведае гэта, і ў вершы пакідае кавалачак душы.

У зрэнках тваіх вачэй
Сцяжынка маленькая свеціцца.
На ёй ты выходзіла ў свет
І са мною сустрэлася.

Гэта—верш Сяргея Панізніка. Пачатак, праўда, насцярожвае—таксама не нова. Але чытаем далей:

І калі мы ўжо размінуліся,
І калі паміж намі застаўся
Адзін развітальны пагляд, —
Я здзівіўся, чаму ўрасела
Паўзарослая тая сцяжынка...
А яна ж, а яна пралягла
Напярэймы майму бездарожжу.

Хай сабе тут няма асаблівага адкрыцця, пошуку ўглыб і ўшыркі, але за вершам адчуваецца нешта перажытае, і з намі не размінаюцца выказаныя ў ім светлыня і сум кахання.

Вось я і прачытала апошні нумар «Маладосці», падзялілася бегла сваімі ўражаннямі. Шкада, што не магу на гэты раз пагадзіцца са сваім сябрам-празаікам—вершы мне падаліся ў большасці нецікавымі, неабавязковымі. Не ведаю, у чым прычына. Аўтары—людзі здольныя, я памятаю, што ў кожнага з іх былі добрыя вершы. Але, мабыць, ім варта задумацца. Паэзія вымагае поўнай аддачы сіл, натхнення, вынашанай думкі. Пісаць жа вершы дзеля вершаў—занятак малаплённы.

**Вера ВЯРБА.**

# АБ НЕКАТОРЫХ ЗІГЗАГАХ ЭПІЧНАЙ КРАСАМОЎНАСЦІ

«НЕМАН»

У ЧАЦВЁРТЫМ НУМАРЫ часопіса «Неман» за гэты год змешчан артыкул А. Лойкі «На грані звычайнага і незвычайнага» з падзагалоўкам «Палемічныя заметкі аб паэзіі на старонках «Полымя» і «Маладосць» у 1971 годзе».

Выкарыстаўшы запрашэнне крытыка да палемікі, дазволю сабе спыніцца на тым раздзеле яго агляду, дзе даецца ацэнка паэме А. Куляшова «Далёка да акіяна». Я перакладаў твор на рускую мову, і думаю, што гэтая акалічнасць дае мне пэўную падставу меркаваць аб паэме з некаторым веданнем справы. У мяне, аднак, няма намеру ўдавацца ў разгляд паэмы — мне хочацца пагаварыць не столькі аб паэме, якая патрабуе асобнага і нябеглага абмеркавання, колькі аб тых крытэрыях, з якімі падышоў да яе аўтар агляду.

У тым, што крытык не лічыць паэму ў цэлым поспехам паэта, нельга ўгледзець, зразумела, ніякага грэху. Незалежнасць меркаванняў не проста права, а элементарная ўмова работы крытыка. Але што, калі параіць таму ж А. Лойку, напрыклад, замест гадавога агляду напісаць аб тым жа самым прадмеце паэму, якая цалкам адпавядала б яго ўласным крытэрыям мастацкасці? Думаю, падобная парада была б успрынята як адкрытая бестактоўнасць. А Лойка ж у захапленні ўласным красамоўствам раіць А. Куляшову: «...ці не лепш было б, калі б паэт напісаў свае «Лісткі каляндара» — мемуары, якія былі б куды больш да месца».

Чаму, дарэчы, менавіта «Лісткі каляндара», а не што-небудзь іншае? І як тут наконт элементарнай прыстойнасці, якая, мне думаецца, заўсёды да месца? І вось яшчэ. Ніхто, як мне помніцца, не наракаў на тое, што, скажам, М. Асееў напісаў паэму «Маякоўскі пачынаецца», прысвечаную, па сутнасці, сугуба літаратурным успамінам, а не празаічныя мемуары. Падобныя нараканні па-праве былі б палічаны недарэчнасцю.

Звернемся, аднак, да сутнасці меркаванняў крытыка аб паэме «Далёка да акіяна». Што ў паэме новага? — дапытваецца крытык і прыходзіць да бязрадаснага вываду: нічога новага няма, бо няма нічога «традыцыйна-эпічнага». Прасцей кажучы, новага няма, бо няма...старога! Крытык піша: «Не памяць народная становіцца аб'ектам паэтычнага ўвасаблення, а

*Памяць — я, што коціцца*
*З вусця ў свой выток.*

Не слава подзвігаў народных хвалюе паэта, а слава «трубачоў са Случчыны», лірычнага героя з псеўданімам Дуда.

Палемічная аснова задумы паэмы несумненна цікавая, але ці прыводзіць рэалізацыя гэтай задумы да паэмы?»

Паспрабуем, хоць бы часткова, разабрацца ў прэтэнзіях крытыка і іх адпаведнасці таму, што ёсць у «Далёка да акіяна» на самай справе. А. Лойка бачыць задуму твора, галоўны ле прыём у проціпастаўленні «рэалізм далёкага мінулага» і выхаду ў свет па падземным ходзе сярэдневяковага князя выхаду ў вялікі свет таго пакалення, што ішло «вуліцай Чырвонаю». Менавіта адсюль і робіцца вывад аб тым, што «не памяць народная», а, значыць, не гісторыя народа — «аб'ект паэтычнага ўвасаблення». Вывад больш чым дзіўны. Цяжка паверыць, каб крытык думаў, што сапраўдны эпас сканцэнтраваны ў сценах старадаўняга княскага замка, а народжаны рэвалюцыяй парыў да ведаў і творчасці гэтых першых савецкіх пакаленняў не змяшчае ў сабе ніякага гераічнага элемента.

Ды і супрацьпастаўлення, угледжанага крытыкам, тут, па сутнасці, ніякага няма. Старажытнае аблічча гарадка толькі фон, які падкрэслівае небывалую навіну жыцця, што раптоўна закіпела на яго вуліцах. Гістарычна і псіхалагічна дакладна тут і тое, што помнікі мінулага зусім не былі аб'ектамі цікавасці і клопатаў для юнага пакалення першых савецкіх гадоў. Быў юнацкі — наіўны і нават крыху смешны — але чысты, шчыры рэвалюцыйны максімалізм. Увесь свет, усе з'явы жыцця для гэтай моладзі былі строга падзелены на «белы Версаль» і «Чырвоны Парыж» — першы яна была гатова разбурыць з усякімі яго помнікамі ўшчэнт, а за другі— без страху прыняць смерць. Такая жыццёвая, псіхалагічная праўда, паказаная паэтам.

Не варта таксама прыпісваць паэту іранічныя адносіны да далёкай гісторыі. Тая злёгку іранічная ўсмешка, якая тут прысутнічае, адносіцца да ўласнага юнацтва паэта і яго равеснікаў, да іх юначага максімалізму.

Зрэшты, не ў гэтым усё-такі раздзеле — сакрэт задумы, ключ да яе. У самым пачатку, ва ўступе паэт адкрыта вызначае сваё паэтычнае заданне. Ды і ў самой паэтыцы назвы заключана тлумачэнне таго, чаму паэт зноў вяртаецца да вытокаў жыцця свайго і свайго пакалення. Ёсць паэты, чыя ўвага нязменна звернута да аднаго і таго ж кола жыццёвых з'яў — ад гэтага яны не становяцца мемуарыстамі ў сваіх вершах. А. Куляшоў не належыць да аўтараў з вузкай сферай творчых інтарэсаў, але і для яго без вяртання да вытокаў няма руху наперад. Ён вяртаўся не раз і да малой роднай крыніцы, і да вытоку духоўнага — да юнацтва пачатковых рэвалюцыйных гадоў. Але тады акіян нябыцця яшчэ не дыхаў у твар яго пакаленню. Вось што павінна па-новаму асвятліць гэтае новае вяртанне. Вера ў бессмяротнасць гістарычнай творчасці пакалення, у невычарпальнасць ракі жыцця — вось што азначае «далёка да акіяна».

Не ведаю, ці імкнуўся паэт стварыць нейкі вынайдзены крытыкам «эпас асобы», але якой-небудзь палемікі чыста літаратурнага значэння, г. зн., з прыёмамі і законамі традыцыйнага або нетрадыцыйнага эпасу, угледзець у задуме паэмы проста немагчыма. Задума гэта больш значная і сур'ёзная за ўсялякія літаратуразнаўчыя і іншыя палемікі.

І зусім не супрацьпастаўляецца ў паэме, як не супрацьстаіць яна ў жыцці, «слава подзвігаў народных» славе «трубачоў са Случчыны», гістарычная памяць народа — памяці сэрца паэта. І хіба з'яўленне гэтых новых паэтаў з тысяч «ціхіх месц» вялікай краіны не належыць да эпасу рэвалюцыі, хіба не яны — носьбіты гэтай народнай памяці?

Сумніцельная плённасць крытычнага метаду А. Лойкі выяўляецца хоць бы з наступнай яго заўвагі: «Ёсць у паэме паглыблены псіхалагізм, але няма ў ёй сапраўды эпічнай дэталізацыі, няма сапраўды эпічнага псіхалагізму». Прызнацца, да сэнсу тут дабрацца даволі цяжка. Сапраўды, у чым адрозненне паміж псіхалагізмам «паглыбленым» і «эпічным» і ў чым перавага апошняга — магчыма ў тым, што ён менш глыбокі? І якая сувязь паміж псіхалагізмам і «эпічнай дэталізацыяй»? І дзе водападзел паміж дэталізацыяй «эпічнай» і «неэпічнай»?

Наогул кажучы, аўтара крытычнага агляду ў несупярэчлівасці «абвінаваціць» цяжка. З аднаго боку — ёсць псіхалагізм, з другога — яго няма. З аднаго боку паэт нібыта імкнуўся стварыць строга эпічны твор, з другога — з самага пачатку палемічна супрацьпаставіў усякай эпічнасці сваё лірычнае «я». Дзе ж логіка, паважаны А. Лойка?

З агляду пад загалоўкам «На грані звычайнага і незвычайнага» мы даведваемся нават, што лірыка і паэма наогул знаходзяцца пад судом і следствам. Так прама і сказана: «Лірыка, вядома, мастацтва спецыфічнае, але гэта не апраўданне. Тым больш нельга апраўдаць як жанр паэму з яе невычарпальнымі магчымасцямі эпічнага асваення сучаснасці».

Кіруючыся сваёй устаноўкай аб паўнацэннай мастацкасці толькі «традыцыйна-эпічнага», крытык піша аб паэмах «Сцяг брыгады» і «Толькі наперад»: «Дэталь у гэтыя паэмы перавандравала з лірычнага жанру, тым не менш сюжэт, характары, рамантычны і гераічны пафас зрабілі сваю справу — паэмы станавіліся паэмамі». Хацеў таго аўтар агляду або не, але, дзякуючы захапленню «пляценнем славес», цень на ясны дзень наведзены. Як уяўляе сабе крытык магчымасць стварэння характараў і дасягнення эмацыянальнай пераканаўчасці пры чужароднасці, незаконнасці, неарганічнасці мастацкіх дэталей? І ці варта наогул упамінаць дарэмна імя паэзіі там, дзе вобразная сістэма, як гаворыцца, тыповае не тое?

Што, уласна, лічыць крытык вызначальнымі рысамі эпічнай, г. зн., на яго думку, сапраўднай паэмы? А вось: «Раскрыццё лёсу народнага, гераічнага пачатку жыцця народнага, славы народных подзвігаў, калектыўнага духоўнага вопыту, асаблівасцей матэрыяльнага існавання народа і сутнасці палітычных, культурных, маральных асноў яго існавання». Няхай даруе мне А. Лойка труізм, але даводзіцца напомніць, што папярэдняй умовай сур'ёзнай крытыкі з'яўляецца ўважлівае чытанне. Нават няўзброенае нікімі крытычнымі догмамі вока лёгка выявіць у «Далёка да акіяна» многае з таго, што, на думку крытыка, з'яўляецца сапраўды ўласцівым паэме. З гэтага, аднак, зусім не вынікае, што гэтая паэма — эпас і што яна абавязана ім быць, каб яе прызналі паэмай, а не, скажам, мемуарамі.

Справа ў тым, што пералічаныя крытыкам, нібыта характарыстычныя, рысы эпічнай паэмы зусім такімі не з'яўляюцца. І гісторыя, і слава народных подзвігаў, і калектыўны духоўны вопыт — усё гэта з не меншай мастацкай сілай і пераканаўчасцю выражаецца і ў лірыцы і ў іншых жанрах.

Калі б крытык улічыў больш чым паўвекавы вопыт шматнацыянальнай савецкай паэзіі, ён зразумеў бы, наколькі наіўная яго спроба вымераць твор куртатай меркай школьнага класіцызму. Бо для жанравай характарыстыкі такіх паэм, як «Пра гэта», «Добра», «Ганна Снегіна», «Маякоўскі пачынаецца», «За даллю даль» (называю першыя, што прыйшлі на думку), карыстаюцца эпітэтамі і лірычная, і ліра-публіцыстычная, і ліра-эпічная, і г. д., і да т. п.

Нарэшце, справа не ў літаратуразнаўчай наменклатуры, а ў жывым літаратурным факце. Хіба раздзелы аб дзяцінстве героя «Далёка да акіяна» нічога не гавораць аб «умовах матэрыяльнага існавання народа», а тое, што адбываецца з персанажамі паэмы, ляжыць за межамі гісторыі? Хіба лёсы Дуды, Князёўны, Раменнага, Гомана, Прытапенкі — не адлюстраванне народнага лёсу, а ў іх характарах, у жыццёвых паводзінах не ўвасоблены духоўны вопыт і маральныя асновы народнага быцця?

І справа яшчэ ў тым, ці паэзія перад намі, або, што не так ужо рэдка здараецца, яе больш ці менш спрытная імітацыя. Можна меркаваць, што гэтага, вырашальнага для ацэнкі вершаванай прадукцыі, пытання аўтар агляду сабе наогул не задаваў. Інакш ён быў бы куды больш ашчадны на пахвальныя граматы і гадавыя пяцёркі, якія сведчаць часам аб страце эстэтычнага чуцця. А «Далёка да акіяна» не палічыў бы такой ужо няўдачай — ды прытым ледзь ці не адзінай! — паэтычнага года. Без умення — і нават спробы — адрозніць мастацтва ад падробкі ўсякая крытыка становіцца марнаслоўствам.

Паэзія правяраецца не падручнікам, а жыццём, жыццём свету і сэрца. Калі б падысці з гэтай меркай і да новай паэмы А. Куляшова, то, магчыма, можна выявіць у ёй вартасці і пралікі куды больш істотныя, чым «эпічнасць» або «неэпічнасць». Можна таксама дапусціць, што пралікі, што страты вялікага паэта — у многім больш цікавыя, і, ужо тым больш, павучальныя за многія іншыя «дасягненні». Ва ўсякім выпадку аб усім гэтым трэба гаварыць узважана і сур'ёзна.

**Навум КІСЛІК.**

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ АРХІТЭКТАРАЎ



**АЛЯКСЕЕЎ Канстанцін Мікалаевіч.** Нарадзіўся ў 1943 годзе ў Таджыкскай ССР. У 1968 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе галоўным архітэктарам г. Магілёва. Аўтар праектаў пашырэння будынка Дома Саветаў у Магілёве, жылога дома на 111 кватэр з магазінам, рэстаранам на 500 месц, дома праектных арганізацый у Магілёве.



**ГВАРДЫЯН Ала Мікалаеўна.** Нарадзілася ў 1943 годзе ў г. Барысаве. У 1967 г. скончыла Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе старшым архітэктарам Магілёўскага філіяла Белдзяржпраекта. Аўтар праектаў генплана і дэталёвай планіроўкі цэнтральнай часткі Бялынічаў, мікрараёна ў Асіповічах, дэталёвай планіроўкі цэнтральнай часткі Быхава, азелянення мікрараёна Юбілейны ў Магілёве.



**ГРАЧЫШНІКАЎ Аляксандр Іванавіч.** Нарадзіўся ў 1938 годзе ў Новасібірскай вобласці. У 1966 г. скончыў Новасібірскі інжынерна-будаўнічы інстытут. Працуе архітэктарам у Віцебскім філіяле Белдзяржпраекта. Аўтар праектаў лячэбнага корпуса санаторыя «Алтай» у Белакурысе, спальнага і спартыўнага корпусаў дома адпачынку «Сасноўка» пад Новасібірскам, 12-павярховага дома з магазінам і адміністрацыйнага будынка ў Віцебску.



**ЗОРЫН Іван Сяргеевіч.** Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Варонежскай вобласці. У 1969 г. скончыў Харкаўскі інжынерна-будаўнічы інстытут. Працуе архітэктарам у інстытуце Белгіпрахарчпром. Аўтар праектаў хлебазавода ў Каламыі, піўзавода у Казані і Шосткы, булачна-кандытарскага камбіната ў Душанбэ, кансервавага завода ў Расошы.



**КАЗЛОВА Таццяна Міхайлаўна.** Нарадзілася ў 1944 годзе ва Узбекскай ССР. У 1967 г. скончыла Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе старшым архітэктарам у інстытуце Белдзяржпраект. Аўтар праектаў 208-кватэрных дзевяціпавярховых жылых дамоў з убудаванымі памяшканнямі грамадскага прызначэння на вуліцы Веры Харужай, падземнага пераходу з убудаванымі прадпрыемствамі гандлю ў раёне трактарнага завода, фізіка-тэхнічнага інстытута Акадэміі навук БССР у Мінску.



**КАМАРОВА Аліна Міхайлаўна.** Нарадзілася ў 1944 годзе ў г. Маскве. У 1968 г. скончыла Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе малодшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Прымала ўдзел у распрацоўцы праектаў хлебазаводаў у Таліне і Нарве, кандытарскага камбіната ў Гомелі, піўзавода ў Андыжане і раду іншых прадпрыемстваў грамадскага харчавання.



**КАНСТАНЦІНОВІЧ Анатолій Міхайлавіч.** Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Барысаўскім раёне. У 1968 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе старшым архітэктарам у інстытуце Белдзяржпраект. У аўтарскіх калектывах прымаў удзел у распрацоўцы праектаў рэспубліканскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў, паталага-анатамічнага і тэрапеўтычнага корпусаў Рэспубліканскай бальніцы ў Бараўлянах.



**ЛОБЗАЎ Карл Васільевіч.** Нарадзіўся ў 1934 годзе ў Мінску. У 1968 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе кіраўніком групы ў інстытуце Мінскпраект. Аўтар праектаў будынкаў Мінскага мастацкага вучылішча, Дома культуры прафтэхадукацыі, Гідраметцэнтра БССР, лесаўпарадкавальнага прадпрыемства, аблваенкамата ў Мінску.



**ЛІСОЎСКІ Леў Мікалаевіч.** Нарадзіўся ў 1924 годзе ў Барысаўскім раёне. У 1952 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе галоўным інжынерам інстытута Белгіпрагандаль. Аўтар праектаў тыпавых жылых дамоў, дамоў для састарэлых, школ-інтэрнатаў. Пад кіраўніцтвам А. Лісоўскага распрацаваны тэхнічныя праекты крытага рынка ў Мінску і універмага ў Гомелі.



**МАЛАХАЎ Уладзімір Георгіевіч.** Нарадзіўся ў 1944 годзе ў Новасібірскай вобласці. У 1968 г. скончыў Новасібірскі інжынерна-будаўнічы інстытут. Працуе кіраўніком брыгады ў Віцебскіх майстэрнях Белкамунпраект. Аўтар праектаў вучэбнага корпуса Полацкага педвучылішча, лячэбнага корпуса Лепельскай псіханеўралагічнай бальніцы, гарадской станцыі пасажырскага транспарту ў Віцебску, грамадскіх будынкаў у г. Томску.



Мал. А. САПЕТКІ.



Валянцін ТАРАС

# ПРАЛОГ

**Закончана праца над аповесцю «На ціхім хутары», часопісны варыянт якой быў змешчаны ў мінулым годзе ў часопісе «Юность». Хачу падкрэсліць, што «На ціхім хутары» — не проста аўтарскі пераклад часопіснага варыянта на беларускую мову, а новы твор. Перапісаць аповесць, прычым перапісаць па-беларуску, мяне прымусіла арганічная, як мне здаецца, «беларускасць» жыццёвага матэрыялу, пакладзенага ў яе аснову.**

**Прапаную чытачам пралог гэтай аповесці.**

АЎТАР.

У ТОЙ ДЗЕНЬ мяне паклікаў у дарогу няшчасны выпадак. Ну, няшчасны, можа, занадта страшна сказана, але ўсё ж...

Мой швагер, малады хлапец, набыў нядаўна матацыкл і гойсае на ім, як вар'ят. Таму, калі ён надумаў паехаць на гэтым матацыкле на цэлы тыдзень у азёрны край і ўзяць з сабою майго сына, я запярэчыў: «Не пушчу! Не хапала яшчэ, каб вы абодва галовы паскручвалі». Але швагер запэўніў, што будзе ехаць асцярожненька, што ўсё будзе добра: «Каб гэта ў Крым альбо на Каўказ, а то па роўнядзі, па шашы. Ды і там, пад Браславам, не горныя кручы». І маё малое (пятнаццаць год!) упёрлася: «Паеду — і усё! Што ты заладзіў: небяспечна, небяспечна!... Смешна слухаць. Жыць наогул небяспечна, татачка!»

Ну, і паехалі. А сэрца ў мяне ўсё шчымела і шчымела. Самому дзіўна: амаль усё жыццё, акрамя трох год вайны, пражыў у горадзе, а машын, асабліва матацыклаў, баюся, нібы які-небудзь дзядзька з глухой вёскі.

Мінуў тыдзень, і ўвальваецца ў кватэру маё хлапчанё, замурзанае, запыленае, за плячыма рукзак, у руцэ кошык з сушанай рыбай. Я адразу заўважыў, што, хоць мой хлапец і ўсміхаецца, нешта здарылася.

— Чаму ты адзін? А Дзіма дзе? Чаму ён цябе да дому не падвёз?

— А Дзіма там застаўся, — кажа, — пад Ганчарамі загарае.

— Як гэта загарае? Яму ж на работу заўтра!

Сын ставіць кошык з рыбай на столік у прыхожай і зноў усміхаецца шырока, на ўсе зубы, бы радасць якая з яго прэ.

— Аварыя ў нас была.

— Аварыя? — Я збялеў.— Якая аварыя? Ён жывы хоць? Чаго ты ўсё выскаляешся?

— Жывы, жывы,— кажа мой хлапец і смяецца.— Не палохайся. Мы ў яміну ўляцелі.

Так, смеючыся, бо для яго гэта вясёлая прыгода, а не выпадак, які мог скончыцца трагічна, хлапец расказаў, што на шашы Браслаў — Ганчары, калі яны паспрабавалі абагнаць грузавік, ускочылі ў выбоіну — з-за пылу не разгледзелі. Для саміх усё скончылася добра, «пацярпеў» толькі матацыкл — хруснула пярэдняе кола. Яны адцягнулі матацыкл з дарогі на лужок, паставілі палатку, мой хлапец падаўся на аўтобус, і цяпер меў намер сёння ж ехаць назад — везці швагру запаснае кола.

Паехаў я сам. Не паехаў, а паляцеў «кукурузнікам» — ён хоць і ціхаход, а да Ганчароў ляціць толькі паўгадзіны.

У самалёт я сеў злосны. Мае адносіны да матацыклаў пацвярджаліся хай сабе не няшчасцем, але ж — ледзь не няшчасцем, і ў галаве круціліся пякучыя словы, якія я меўся сказаць Дзіму, як толькі ўбачу яго, як толькі знайду яго там, пры дарозе, на шаснаццатым кіламетры ў бок Браслава. Але як толькі «кукурузнік» прызямліўся на ганчароўскім аэрадроме (які там аэрадром — луг, перад пасадкай самалёта з яго кароў праганяюць), знікла, як і не было, уся мая злосць. Нечаканая ціхая радасць агарнула мяне, калі я ўбачыў аднапавярховы каменны будынак аэрапорта, звычайную вясковую студню каля яго, мачту са стракатай, надзьмутай ветрам парусінавай «кілбасой», маленькі блакітны аўтобус пры дарозе, рудога калматага сабаку, які стаяў на аэрапортаўскім ганку і ветліва віляў хвастом, нібыта сустракаў усіх тых людзей, што прыляцелі гэтым рэйсам.

Адразу за будынкам аэрапорта пачынаўся высокі сасновы бор. Ягоная цішыня была загадкавая, нібы абяцала нешта важнае, і было такое адчуванне, ці, можа, прадчуванне, што мяне чакае тут нешта вельмі харошае, блізкае сэрцу. Але чамусьці да гэтай маёй ціхай радасці прымешваўся і шчымлівы смутак. Гэта быў светлы смутак сустрэчы з гарадком, у якім я не быў ужо гады чатыры, і наогул гады чатыры не быў я ні ў якіх іншых маленькіх гарадках, а я ж люблю такія гарадкі, люблю іхнія амаль вясковыя вулкі, немітуслівыя базары, сялянскую гасціннасць і шчырую добразычлівасць. Памяць пра такія гарадкі жыве ў маім сэрцы, як памяць пра першае каханне, бо горад, які я палюбіў упершыню ў жыцці, быў якраз такі ж маленечкі гарадок, ціхае мястэчка, якое дало мне прытулак у першы год ваеннай навалы. І хоць я люблю і свой родны горад, гэты вялізны мільённы горад, першае каханне і ціхай радасцю і светлым смуткам абуджаецца ў душы кожны раз, калі трапляеш вось у такі маленькі гарадок, абуджаецца дарагімі, горкімі і шчаслівымі ўспамінамі...

Блакітны аўтобус, што стаяў пры дарозе, павёз маіх спадарожнікаў у горад, а я застаўся, бо мне растлумачылі: каб праехаць крыху ў бок Браслава, не трэба дабірацца да гарадской аўтобуснай станцыі — шаша на Браслаў праходзіць побач, можна «прагаласаваць» любой спадарожнай машыне.

Я пайшоў да шашы, і за мною ўплёўся той самы калматы руды сабака, які сустракаў пасажыраў, нібы ведаў, што мне няма з кім бавіць час, пакуль я злаўлю спадарожную машыну. Так мы з ім і пахаджвалі па шашы, моўчкі размаўлялі: я гаварыў яму пра свой дзіўны настрой, пра сваю ціхую радасць і лёгкі сум, тлумачыў, чаму ў мяне на плячы матацыклетнае кола, гаварыў пра тое, што ён слаўны цюцька, таварыскі, што я ўдзячны яму за кампанію і вельмі шкада, што мне няма чым пачаставаць яго, але калі я буду ляцець назад, дык абавязкова куплю яму ў гарадку ліварнай кілбасы (а ў гарадку мне абавязкова прыйдзецца пабываць, бо бліжэйшы самалёт на Мінск адлятае ў пяць гадзін, ды і білет трэба купляць у гарадку, тут сягоння чамусьці няма касіркі).

Праімчалася некалькі легкавых машын, але я не падымаў рукі — легкавыя машыны неахвотна падбіраюць «галасуноў». І мабыць таму цюцька гаўкаў ім услед. Ды вось паказаўся «Маз», я «прагаласаваў», і шафёр прытармазіў, адчыніў дзверцы. Цюцька пачакаў, пакуль я залез у кабіну са сваім колам, а калі паехалі, ён нейкі час бег побач з «Мазам», ледзь не трапляючы пад колы,— першы стрэчны, а які верны таварыш! Нарэшце ён адстаў — стаміўся, відаць, — і я яшчэ раз падумаў, што, як буду вяртацца назад, абавязкова куплю яму ласунак.

Я растлумачыў шафёру, куды і чаго еду, дзе мне трэба спыніцца, і ён заківаў галавою: ён там праязджаў ужо сёння і бачыў пры дарозе палатку і матацыкл у кустах. Сапраўды, хвілін праз дзесяць я ўбачыў пры дарозе белую палатку, сунуў шафёру рубель у нагрудную кішэнь пінжака і папрасіў спыніць машыну.

Швагер мой спаў, як пшаніцу прадаўшы, а калі я пабудзіў яго, зусім не здзівіўся, што я тут, заўсміхаўся:

— Салют! Прывёз кола? От, малайчына!

Ён, бачыце, яшчэ мяне і пахваліў, блазнюк!

— Чаго ты пнуўся абагнаць тую машыну, калі за пылам нічога не бачыў перад сабою? Ты што, забыўся, што ў цябе за спіной дзіця сядзіць?

Ён зарагатаў:

— Дзіця — шэсцьдзесят пяць кэгэ! Я праз яго больш сямідзесяці кэмэ ў гадзіну не выціскаў!

— Кэ-гэ, кэ-мэ! Што за дурная мода!

— Кінь,— сказаў ён.— Нічога не здарылася. Ну, паляцела кола, бяды вялікай! Ты лепей скажы, можа ў цябе які бутэрброд у кішэні ёсць? Няма? Шкада! Ды нічога, пацерпім! Кола паставіць — раз плюнуць.

Аднак «раз плюнуць» зацягнулася на гадзіну, бо высветлілася, што яшчэ і вілка пагнулася.

Дзіма знайшоў на полі пляскаты камень, пачаў на ім выроўніваць вілку і, ляпаючы малатком, прызнаўся раптам:

— Калі па праўдзе, дык каб скорасць была большай — капцы! Пабачыў бы ты мяне ў белых тапачках!..

Ён сказаў гэта са смехам, а мяне зноў працяла злосць.

— Дурны жарт,— сказаў я.— і сам ты дурань!

А ён сабе пасмейваўся, ляпаючы малатком па вілцы, і вочы ў яго былі вясёлыя, бесклапотныя, без ценю засяроджанасці на тым, што сказаў толькі што. Ён так лёгка і жартам сказаў гэта, бо, як усе маладыя людзі, не верыць у сваю смерць. А не верыць у яе таму, што не бачыў вайны. І дзе яму зразумець нас, тых, хто прайшоў праз яе, дзе яму зразумець, што мы таму гэтак баімся за сваіх дзяцей і блізкіх, гэтак дрыжым над імі, што замнога пабачылі на сваім вяку... Як мне давесці гэта табе, любы мой швагер? Даць табе добрую аплявуху за твае жарты? За «капцы»? За «белыя тапачкі»? За тваю блазноту?

— Дурны жарт, — паўтарыў я, — і сам ты дурань!

— Дурню лёгка жывецца,—рагатнуў ён.—Яго, як і п'янага, бог беражэ!—Ён нарэшце выраўняў вілку, хуценька паставіў кола і паспрабаваў праехаць. На мой погляд, усё было ў парадку, матацыкл насіўся па шашы туды-сюды, бы шалёны, але швагер, падкаціўшы яго да палаткі і выключыўшы матор, весела сказаў:

— Вілачка, каб яе, усё ж крывіць!

— Як жа ты паедзеш? Мо спадарожную машыну пашукаць трэба, у кузаў пагрузіцца?

Ён зірнуў на мяне здзіўлена.

— Дзівак! Ну, заносіць крыху кола, і што? Цяжкавата будзе да асфальта, а там,— ён бесклапотна махнуў рукой,— з ветэркам! Ты са мною не паедзеш? Паляціш?

— Палячу.

— А да Ганчароў?

— Да Ганчароў хіба...

Не рашыўся я адмаўляцца даехаць з ім хоць да Ганчароў, пасаромеўся лішні раз паказаць свой страх перад яздою на матацыкле. Мы знялі і ўпакавалі палатку, прыладзілі яе да багажніка, прывязалі спінінгі і ягоны рукзак—і рушылі. І яшчэ калі мы толькі крануліся з месца, праехалі нейкую паўсотню метраў, нас абагнаў «Запарожац» з жоўтым трохкутнічкам — інвалідскі. Абагнаў і борздзенька прышпарыў па шашы. Каб жа я ведаў, хто ў ім сядзіць!..

У Ганчарах перш-наперш трэба было пакарміць швагра, дый самому перакусіць. Зайшлі ў сталоўку, і хлапец папрасіў узяць яму адразу два абеды. У маленькіх нашых гарадках кормяць не так, як у Мінску, больш шчодра — порцыі там вялікія, булкі ў шніцэлі мала, але хлапец умяў усё за хвіліну. Люба было глядзець, як ён есць! І, дзіўная рэч, мне зноў зрабілася хораша на душы, калі я ўбачыў, як ён налягае на тое, што ў талерках — дужы, спрытны, упэўнены. Нічога благога не можа стацца з такім хвацкім хлопцам! Чаго я ўсё баюся, хвалююся, малюю сабе розныя жахі?

Старэю, відаць, і таму нават дарослыя, дужыя хлопцы здаюцца мне дзеткамі, якіх трэба за ручку пераводзіць цераз вуліцу.

Смешна! Сам дагэтуль жыву сваім дзяцінствам, штодзень помню тых партызанскіх падлеткаў, якія не баяліся ні бога, ні чорта, рызыкоўных, хвацкіх хлопцаў і дзяўчат, якія ўмелі з любога пекла выйсці жывымі, а дарослага сына, а гэтага свайго швагра — дваццаць чатыры гады чалавеку! — лічу немаўляткамі. Так, пэўна — старэю... Ці, можа, гэта ўласціва ўсім бацькам — баяцца за сваіх дзяцей, баяцца за моладзь, можа, гэта бацькоўскі страх жыве ў любы час, і ў дні глыбокага міру ён такі ж самы, як і ў дні вайны? Але не!.. Усё ж гэты страх за блізкіх і дарагіх навек пакінула ў маім сэрцы вайна, гэта яна паказала ўсю няўмольнасць і будзённасць смерці... Так, ты хвацкі, смелы, спрытны і дужы хлапец, мой любы швагрусь, і нічога не можа стацца з табой благога, ды я ўсё ж баюся за цябе — і за цябе, і за свайго сына, за ўсіх маладых!..

— Пра што задумаўся? — пытаецца ён, аладкай вымазваючы з талеркі смятану.— Чаму не ясі?

— Не хочацца.

— Як твая аповесць? Напісаў?

— Пішу.

— Зноў пра вайну?

— Зноў пра вайну.

— А чаму не пра каханне?

# аповесці

— А яна і пра каханне.

— Ого! Пачытаем, калі пра каханне!

Праз хвілін дзесяць ён паехаў. Па-заліхвацку развярнуўся на плошчы — і гайда! І раптам мне стала нават зайздросна: я пазайздросціў яго зухаватасці, таму, што ён будзе імкліва ляцець па шашы, як глісер па рацэ, і вецер будзе спяваць яму сваю смелую песню. Ніводнай тужлівай ноткі няма для яго ў гэтай песні, ніякага смутку на душы, ніякіх горкіх успамінаў. Сонца ў зеніце, неба блакітнае, сэрца поўніцца радасцю жыцця і каханнем. І чытаць хочацца пра каханне, а не пра вайну. «Пачытаем, калі пра каханне»,— сказаў ён, і сказаў тым самым, што хопіць з яго вайны. Кіно — пра вайну, раманы — пра вайну, вершы — усё яшчэ пра вайну!..

Так, усё яшчэ пра вайну... Але што ж рабіць нам, яе дзецям, калі яна працяла нас, як каляднымя маразы маладзенькае дрэўца, як пякельная ліпеньская маланка дубок. Яркай была ўспышка, ды след чорны,— гэта і там, у маёй аповесці пра каханне, пра першае каханне, якое забіла вайна. Ці захочаш ты чытаць пра гэта, мой любы швагрусь?

Электрычны гадзіннік на плошчы паказваў гадзіну дня. Я падаўся з плошчы на вулку, дзе была каса аэрапорта, прыкінуў, што, як набуду білет, пахаджу па крамах, зайду ў кнігарню — у маленькіх гарадках часта ляжаць на паліцах кнігі, якіх у Мінску і пад прылаўкам не знойдзеш. Але я памыліўся, нічога асаблівага не было ні ў крамах, ні ў кнігарні. Урэшце, што тут дзіўнага? Чатыры гады не быў тут і думаў, што ўсё, як раней? І тут людзі пацягнуліся да добрай кнігі, і ў кепскіх касцюмах ніхто больш не хоча хадзіць, і чэхаславацкі абутак купляюць з большай ахвотай, чым прадукцыю вытворчага аб'яднання «Прамень».

Пахадзіўшы яшчэ трохі па крамах, я пайшоў паціху на аўтастанцыю — паеду лепш у аэрапорт, пакуль самалёт — пахаджу па лесе, дайду да ляснога возера, пакупаюся. Цюцьку калматага паклічу з сабой,— добра, што ўспомніў пра яго, трэба купіць яму кілбасы.

На аўтастанцыі было людна, нягледзячы на панядзелак, і народ усё больш вясковы: цёткі з бітонамі, з клункамі, з кошыкамі, донцы ў якіх густа-фіялетавыя ад чарніц, густа-чырвоныя ад суніц, ружовенькія ад парэчак. Цёткі прадалі малако, смятану, ягады і цяпер везлі дадому клункі, напакаваныя цукрам, згушчонкай, кансервамі, содай, мылам, сушкамі. У некаторых сушкі былі не толькі ў клунках, але і на шыі, як вялізныя бурштынавыя каралі,— і чаму гэта вясковыя цёткі гэтак любяць сушкі? Дзядзькі таўкліся каля ларка з півам, на ганку «Закусачнай», стаялі групкамі па два-тры чалавекі пад навесам аўтавакзала, п'ючы дзяшовыя «Чырвонае моцнае» і «Хірсу» і закусваючы хто кавалачкам сала, хто салодкім пернікам, а хто і салам і пернікам адразу.

Гамонка стаяла наўкол густая, чуліся напаўзабытыя словы некранутай горадам вёскі, словы, ад якіх я адвыкаю ўжо і цяпер слухаю іх з асалодай, і мне ўжо расхацелася зараз жа ехаць у аэрапорт — калі яшчэ давядзецца патаўчыся вось гэтак сярод вясковага люду? Я стаяў сабе і стаяў, адзін за другім прапускаючы аўтобусы, што ішлі ў бок аэрапорта, і калі ўжо наважыўся сесці, убачыў той самы «Запарожац» з жоўтым трохкутнічкам на шкле, які абагнаў нас з Дзімам на браслаўскай шашы.

Не ведаю, што мяне прымусіла затрымацца, зноў прапусціць аўтобус. «Запарожац» зрабіў кругаля па маленечкай прыстанцыйнай плошчы і спыніўся непадалёк ад піўнога ларка. Бразнулі дзверцы і шырокі ў плячах сівы чалавек цяжка зашкандыбаў да ларка на знявечаных нагах. У руцэ ў яго быў трохлітровы бітон.

Мяне як паласнула чым па сэрцы, калі я ўбачыў, як гэты чалавек шкандыбае, грузна перавальваецца з боку на бок — я не мог яго не пазнаць!

— Сцяпан!

Мне здалося, што я крыкнуў, а на самой справе, відаць, шэптам назваў ягонае імя, у горле перасохла. А, можа, я і крыкнуў, але ён не азірнуўся, не пачуў, стаў праціскацца да прылаўка. Яму без чаргі налілі піва ў бітон, а я стаяў і чакаў, пакуль ён праціснецца назад, і ногі ў мяне дрыжалі, і ўсё дрыжала ў сярэдзіне, у роце было суха і шаршава. І вось ён пайшоў проста на мяне, здзіўлена зірнуў: што за чалавек утаропіўся ў яго? Зірнуў і хацеў абмінуць, але я заступіў яму дарогу.

— Сцяпан! Вы — Сцяпан?!

Ён гэтак жа здзіўлена пакруціў галавой: не, не Сцяпан. Ён не пазнаваў мяне. А ў мяне ў тую хвілю зусім вылецела з галавы, што ён сапраўды не Сцяпан, што ён — Васіль. Гэта ў маёй аповесці героя завуць Сцяпан. Але ў тую хвілю ўсё гэта выскачыла ў мяне з галавы, і ён глядзеў на мяне здзіўлена і круціў сівой галавой...

— У вас у час вайны, на вашым хутары, пастушок быў,— сказаў я ціха,— хлопчык з Мінска...

— Бы-ы-ў хлопчык,— працягнуў ён і раптам шырока расплюшчыў вочы, бы жахнуўся:

— Ты?!

— Я...

Ён збялеў, разгублена азірнуўся, паглядзеў на свой бітон з півам, бы не ведаў, што з ім рабіць. І я стаяў гэтакі ж разгублены і не ведаў, што гаварыць, пра што распытваць. Калі людзі сустракаюцца праз трыццаць год, ім у першыя хвілі няма пра што гаварыць, бо цэлае жыццё навальваецца на іх, як гара — толькі ўскрыкнуць можна...

Як заўсёды ў такіх выпадках, выручыла «Закусачная». Ён сам, калі прайшла першая збянтэжанасць, прапанаваў зайсці, пагаманіць, а калі я заўважыў, што яму, відаць, нельга ўзяць чарку — за рулём, ён сказаў, што будзе піць піва, чокнецца са мной за сустрэчу, а піва яму можна выпіць які куфаль: ён сёння ў далёкую дарогу не едзе, заехаў з Браслава сюды да сваяка і будзе тут начаваць.

Я купіў у магазіне чацвярцінку, і мы пайшлі ў «Закусачную». Селі за столік. Ён паставіў на яго бітон з півам, здзіўлена засмяяўся.

— Значыць, ты! Я гляджу, нейкі чалавек утаропіўся. Сцяпан, кажа, Сцяпан! А я ж не Сцяпан. Ды гэтулькі год прайшло, што можна і забыцца, як чалавека завуць. Я б цябе... Я б вас ніколі не пазнаў! — Ён непрыкметна перайшоў на «вы».— Вам тады гадоў трынаццаць было ці чатырнаццаць? Такі быў танклявы хлопчык, бялявы!Цяпер, гляджу, толькі вочы ранейшыя засталіся...

Падышла дзяўчына, узяла заказ і амаль адразу прынесла нам сардэлькі з грэчкай, паставіла талерачку з хлебам, паклала відэльцы. Мы папрасілі яе даць нам шклянкі, і ён наліў сабе піва, а мне гарэлкі, выліў яе амаль усю ў маю шклянку, і мы выпілі. Гарэлка неяк адразу стукнула мне ў галаву, і ранейшая радасць, якая нечакана напаткала мяне, калі я выйшаў з самалёта, зноў агарнула ўсю маю істоту.

— Сцяпан,— сказаў я расчулена,— Сцяпан!..

— Васіль,— паправіў ён з харошай усмешкай,— Васіль я. Няўжо зусім забыліся?

— Не,— сказаў я,— не! Помню — Васіль. А сястру вашу звалі Нінай, а бацьку Язэпам. Але для мяне вы Сцяпан...

Ён зноў паглядзеў на мяне здзіўлена, і я спахапіўся: не хапала яшчэ адразу бянтэжыць чалавека, пачаць яму тлумачыць, чаму ён для мяне Сцяпан, тлумачыць, што пішу аповесць, у якой яго — хоць і не зусім яго — завуць Сцяпанам, а Васілём — бацьку Сцяпана, сястру — Хрысціпай. Наогул, ці варта гаварыць, што я нешта там пішу!.. Скажаш і адразу паўстане паміж намі мяжа. Няхай я буду для яго проста той хлопчык-пастушок, які зараз стаў дарослы...

— Гэта проста так уцямілася — Сцяпан,— сказаў я. — Дык як вы жывяце, Васіль? Дзе? Бацька жывы? Сапраўды, столькі часу прайшло, не ведаеш, пра што і пытацца!

Ён стаў расказваць, што жыве ў сваіх родных мясцінах, толькі не на тым хутары, які я помню, а ў райцэнтры, працуе ў камбінаце бытавога абслугоўвання шаўцом. Як быў шаўцом, так і застаўся. Ажаніўся пасля вайны. Узяў Насту Маўчунову. «Мо помніце такую?..» А бацька даўно памёр. Чаму тут апынуўся? А ў яго адпачынак, вось і ездзіць сабе па сваяках ды знаёмых.

Я слухаў, глядзеў на яго і бачыў, які ён зрабіўся стары, нават вочы выцвілі, валасы зусім белыя, твар пабіты маршчынамі. Колькі яму цяпер? Гадоў пяцьдзесят пяць? А колькі было б Хрысціне? Хаця — што гэта я? Не Хрысціне, а Ніне...

Я слухаў уважліва, але ў той жа час думкі мае былі і ў мінулым, у маім дзяцінстве і ягонай маладосці, там, на ціхім хутары, куды прыходзілі па начах партызанскія хлопцы, з якімі аднойчы пайшоў і я ў зялёную імглу Налібокаў...

— Васіль, — гаварыў я яму, — Васіль! Гэта цэлая аповесць, нашае з вамі жыццё, цэлая аповесць! Я вельмі рады, што сустрэў цябе, Васіль! Вы не ведаеце, хто вы для мяне, што значыць для мяне гэтая сустрэча!..

Я гаварыў яму то «вы», то «ты». Майму Сцяпану я мог гаварыць толькі «ты», хоць і яму, Васілю, я некалі гаварыў толькі «ты», але ж з тае пары прайшло амаль трыццаць год, і цяпер перада мною сядзіць сівы чалавек, і мне няёмка гаварыць яму «ты». Але час ад часу я гаварыў яму «ты», бо ён быў для мяне Сцяпанам, хоць я сачыў за тым, каб больш не называць яго Сцяпанам.

— Што мы ўсё пра мяне ды пра мяне? — сказаў ён.— Як жа вы самі? Што робіце, дзе жывяцё?

Дзіўна, як цэлыя трыццаць год можна пераказаць некалькімі фразамі,— калі пакласці іх на паперу, яны зоймуць паўстаронкі. Вось кароценька расказаў Васілю пра сябе, і быццам няма больш пра што расказваць, няма што сказаць пра цэлыя дваццаць сем маіх пасляваенных год. А які-небудзь адзін месяц, адзін летні месяц сорак другога года падступаецца да мяне цэлай аповесцю...

Ёсць гіпотэза, пакуль што фантастычная, быццам ў Сусвеце паралельна існуюць дзве прасторы, два часы, два светы, якія сумяшчаюцца, пранікаюць адзін у другі, і калі б нам удалося зрабіць фізічнай рэальнасцю так званую гіперпрастору, увайсці ў яе, мы ўбачылі б гэты паралельны нам свет, такі самы, магчыма, як і наш. Толькі падзеі ў тым свеце адстаюць ад нашых, адстаюць у часе. І вось для мяне нібы здзейснілася гэтая фантастычная гіпотэза, сумясціліся ў адну дзве рэальнасці: я быў і ў сённяшнім сваім узросце, і адначасова хлапчуком у зрэбных портках; сядзеў і ў гэтай «Закусачнай», і ў цёмнай сялянскай хаце, дзе вячэралі партызаны, і Васіль-Сцяпан вячэраў з імі, ціха гаварыў нешта, і я чуў, аб чым: што солі яшчэ ёсць з паўпуда, што хлопцы з Яцкава абяцалі выкапаць з тайніка тыя вінтоўкі, якія яшчэ ў сорак першым схаваў стары Антось,— ён, Антось, нарэшце ўспомніў, дзе ён іх закапаў...

А гэта ж Антосева мянушка была Маўчун і, значыць, гэта на ягонай дачцы ажаніўся Васіль. «Узяў Насту Маўчунову. Можа помніце такую?»

Як не помніць! Усё гэта большае нешта, чым проста памяць — дзве рэальнасці сумясціліся ў адну. Вось Васіль трымае ў руцэ відэлец, а бачу ў ёй наган, той міліцэйскі наган, які ён аддаў мне, калі трэба было пакідаць хату, калі схапілі заложніцай яе, чыё імя шчаслівай трывогай жыло ў сэрцы падлетка-пастушка...

— Васіль,— гаварыў я,— Васіль! Гэта цэлая аповесць, наша з вамі жыццё, цэлая аповесць!..

— І праўда, — сказаў ён,—і праўда! Каб хто ў кніжцы апісаў!

...Усё мы перагаварылі з ім, усё ўспомнілі, і шчаслівае і горкае, успомнілі мёртвых, памаўчалі...

— Мне пара,— сказаў я,— у пяць гадзін самалёт.

Я запісаў ягоны адрас і даў яму свой, сабраў з талеркі грэчневую кашу і сардэліну, загарнуў у газеціну.

— Там, у аэрапорце, цюцька мяне чакае. Пасябравалі.

Васіль пасмяяўся хораша, пакруціў галавой — падумаў, відаць, што я ўсё ж трохі ўпіўся, таму гэткая расчуленасць да нейкага цюцькі.

— А помніш Дукса? — спытаў я.

— Помню, як жа не помніць. Харошы быў сабака. Напалохаў яшчэ цябе, як ты толькі прыехаў.

Мы ўсё ж перайшлі на «ты»!

Ён загарэўся падвезці мяне ў аэрапорт, аднак я запярэчыў, сказаў, што ўсё-такі ён выпіў піва, яшчэ затрымаюць гаішнікі і будзе сапсавана нашая сустрэча.

— Шчасця табе, Васіль!

— І ты будзь шчаслівы, браце! Прыязджай да мяне.

— І ты да мяне прыязджай.

Мы развіталіся. Ён залез у свой «Запарожац», памахаў з кабінкі рукою. І я пастаяў яшчэ, паглядзеў, як ён разварочваецца. Развярнуўся і прышпарыў па вуліцы, знік. Але мне не было ні журботна, ні сумна, было хораша, светла, і ўсю дарогу да аэрапорта было хораша і светла—і ад нядаўняй сустрэчы, і ад людзей, што ехалі ў аўтобусе — дзядзькі і цёткі з клункамі, поўнымі сушак. Мне здавалася, што я ведаю ўсіх гэтых дзядзькоў і цётак, ведаю здаўна, з гадоў вайны, хоць гэта былі зусім яшчэ маладыя дзядзькі і цёткі, маладзейшыя за мяне, але я ўсё адно пазнаваў іх.

У аэрапорце, аднак, мне зрабілася крыху сумна — не было нідзе майго калматага цюцькі. Я пахадзіў вакол будынка, пасвістаў — няма. Я падаўся ў будынак, падышоў да акенца, за якім пры навігацыйнай апаратуры сядзеў малады хударлявы мужчына. Ён называў па радыё свае пазыўныя, гаварыў, якая вышыня воблачнасці, якая хуткасць і які напрамак ветру, якая бачнасць па курсу — трымаў сувязь з самалётам, што ляцеў у Ганчары з Мінска. Я пачакаў, пакуль ён крыху вызваліцца, і спытаў:

— Тут у вас цюцька бегаў, калматы такі, руды. Вы не ведаеце, дзе ён?

Мужчына зірнуў на мяне здзіўлена, затым усміхнуўся:

— Колькі?

— Што — колькі?

— Колькі ўзялі, пытаю.— Ён засмяяўся.— Грамаў, відаць, трыста?

— Ды не, я сур'ёзна. Дзе цюцька?

— А ліха яго ведае,— пацісчуў ён плячыма.— Круціцца тут часам.

Зноў выйшаў на сувязь самалёт, і я не стаў перашкаджаць чалавеку, падаўся адсюль, пахадзіў яшчэ вакол будынка. Вырашыў, што пакіну цюцьку сваё частаванне дзе-небудзь у дворыку. Як прыйдзе — знойдзе.

Неўзабаве сеў самалёт, хударлявы мужчына з апаратнай праводзіў нас, некалькіх пасажыраў, на пасадку, і праз якія пяць хвілін мы ўзляцелі — на маленечкіх аэрадромах самалёты не стаяць па гадзіне.

Усю дарогу я думаў пра сустрэчу ў Ганчарах і каторы раз палохаўся, што яна магла не адбыцца. Ускочыў бы я тады ў аўтобус, і не было б ніякай сустрэчы. І яшчэ я думаў, што мне могуць не паверыць, такія выпадковыя сустрэчы мудрыя крытыкі, якія ведаюць усё на свеце, лічаць сюжэтнай нацяжкай, яны безапеляцыйна вырашаюць, што верагодна, а што неверагодна. Але ж гэта не я прыдумаў, гэта лёс так наваражыў, каб мой швагер і сын паехалі ў азёрны край, каб у іх паляцела кола, каб я павёз запасное і гэтак далей.

Я думаў, што абавязкова пашлю Васілю аповесць, аповесць і пісьмо, у якім усё растлумачу, але ён, напэўна, усё адно здзівіцца, як непадобна тое, пра што я напісаў, на тое, што было на самай справе, хоць у той жа час і падобна...

Я думаў, як шчыльна звязана мінуўшчына з сённяшнім днём, пра тое, што адзін летні месяц сорак другога года, той месяц, што я быў пастушком, паклаў адбітак на ўсё маё жыццё, што ён у многім вызначыў мяне як чалавека: калі ёсць у маёй душы нешта добрае, дык зерне яго пасеялі і яны, людзі з майго дзяцінства, людзі з ціхага хутара, які быў партызанскай яўкай, адкуль і я пайшоў са стрэльбай у зялёную імглу Налібоцкай пушчы. Там, на гэтым хутары, прыйшло да мяне і першае каханне, чыстае і нясмелае, каханне, якое ўпершыню раскрыла мне вочы на прыгажосць свету.

Я назаўсёды звязаны з гэтым каханнем, з людзьмі, якіх я ведаў, як гэты самалёт звязаны нябачнай нітачкай з тым маленечкім аэрапортам, з тым чалавекам, што сядзіць пры навігацыйных прыборах, каб самалёт не збіўся з курсу.

Я глянуў у акенца — ўнізе ляжала цёмная, як рака, стужка шашы. Па ёй ішлі падобныя з вышыні на марудных жукоў аўтобусы і беглі мурашкі-матацыклы. Я падумаў, што можа вось цяпер пада мною едзе Дзіма, падумаў, хоць бы не здарылася чаго! Але я ведаў, адчуваў, што нічога не здарыцца, што ўсё будзе добра, як мае быць...

ПРАБЛЕМЫ. МЕРКАВАННІ. РОЗДУМ

# ПАРОГІ НА НАФТАВЫХ РЭКАХ

...ЗА ГАМОНКАЮ не прыкмецілі, як верталёт падляцеў да Рэчыцы. Унізе віецца стужка Дняпра. А там, далей, ужо бачны першы нафтапромысел — шырокае палотнішча факела трапеча на ветры, ірвецца ўверх, асвятляючы металічныя збудаванні вогненнымі бліскаўкамі.

— Вярні на Асташку,— загадаў Іосіф Станіслававіч Муліца пілоту.

Было ветрана, і верталёт ішоў няроўна. Зямля то падымалася ўверх і праносілася зусім побач, так што можна было пазнаць людзей, то імкліва аддалялася.

— Вясна набірала клопатаў,— сказаў Іосіф Станіслававіч і, убачыўшы, што я не зразумеў, дадаў.— Пры свідраванні першая нафта зліваецца ў часовыя земляныя «свіраны», а потым адпампоўваецца ў нафтапровад, большай жа часткай спальваецца. Вунь тое возера ля свідравіны і ёсць «свіран». Нафту туды не пусціш, вада... Пасля разальецца разам з паводкавымі водамі...

— На Палессі і летам вада.

— У тым закавыка. Капнеш на паўметра, і з'яўляюцца грунтовыя воды.

— А выйсце?

— Круцім галаву. У Татарыі гэтую нафту зліваюць у перасоўныя ёмістасці, з якіх пасля выпампоўваюць у нафтапровад. А тут не ўсюды даставіш буйнагабарытную ёмістасць. Параіцца з вучонымі трэба. Можа скарыстаем спецыяльную паліэтыленавую плёнку для гэтых «свірнаў», магчыма знойдзецца іншае рашэнне.

— Таварыш галоўны інжынер, заштарміла,— уклініўся ў размову пілот. І сапраўды, з паўночнага захаду насоўваліся густыя хмары, пачынаў церушыць дождж.

— Давай на базу,— незадаволена сказаў Муліца, шкадуючы, што сарваліся планы на сённяшні дзень. Ён хацеў пабываць на трэцяй і трыццаць сёмай свідравінах, дзе «села» здабыча. І восемдзесят другая дзіўна сябе паводзіць. Нафта ідзе штуршкамі, мабыць недзе ў ствале затрымка.

НЕ ТАК ДАЎНО пра беларускую нафту вяліся бурныя спрэчкі ў кабінетах вучоных. Многія чамусьці лічылі, што нетры нашай рэспублікі бедныя на карысныя выкапні. Забалочаная раўніна не рабіла ўражання багатай мінеральнай сыравінай тэрыторыі. Але знаходзіліся смельчакі, якія ўпарта сцвярджалі адваротнае. У іх ліку быў беларускі вучоны і пісьменнік Міхайла Грамыка, чыё дзяцінства прайшло ў невялікай вёсачцы Чорнае, што асядлала лысіну ўзвышша на левым беразе Дняпра непадалёк ад Рэчыцы. Ён яшчэ ў трыццатых гадах гаварыў, што нафта абавязкова павінна быць на Палессі, дакладна вызначыў месца яе залягання і ўзначаліў адну з першых пошукавых геалагічных партый. Свідраванне вялося ў асноўным на невялікіх глыбінях. Нафту шукалі ў пясчаніках і глінах, што і было памылкай. Толькі калі ў 1957—58 гадах пад Грозным атрымалі каштоўную сыравіну з карбанатных парод, пачалі і ў Беларусі даследаваць геалагічныя карбанатныя адкладанні.

Першы фантан ударыў на свідравіне № 8 у майстра Валянціна Зайцава, потым на свідравіне № 6 у майстра Уладзіміра Галкі.

У гісторыі геалагічных пошукаў нафты ў Прыпяцкай упадзіне геолагі выдзяляюць тры этапы: 1937 — 50 гг., 1951—60 гг., 1960 год і па сённяшні дзень.

На першым этапе доследы насілі рэгіянальны характар. Тады асноўная ўвага надавалася геафізічным метадам разведкі. Першая глыбокая свідравіна была закладзена ля вёскі Давыдаўка Светлагорскага раёна ў 1938 годзе. Дарэчы, там цяпер знойдзена цэлае радовішча нафты, якое і носіць назву — Давыдаўскае.

Пасля вайны разведка нетраў Палесся пашырылася. У 1953 годзе пад Ельскам геолагі атрымалі невялікі прыток нафты — усяго 16,5 кубічных метраў за суткі. Было закладзена адразу некалькі свідравін на гэтай плошчы, але ўсе яны аказаліся «сухімі». Не хацела адкрываць зямля сваіх кладовак. Работы ўскладняліся з-за незвычайнай будовы геалагічнай структуры Прыпяцкай упадзіны.

— Прырода бы наўмысна распляскала ў розных мясцінах нафту, — тлумачыць Муліца. — Размясці побач дзве свідравіны — з адной атрымаеш нафту, а з другой — шыш з макам.

Ды геолагі народ упарты. Яны адно за адным адкрылі Рэчыцкае, Асташкавіцкае, Давыдаўскае, Вішанскае радовішчы. Сёння вядзецца пошук новых кладовак каштоўнай сыравіны экспедыцыямі Міністэрства геалогіі і свідравальнымі прадпрыемствамі і аб'яднаннямі «Беларуснафта». Нафтаразведчыкі ўжо крочаць па Мінскай, Магілёўскай, Брэсцкай абласцях, а прамысловікі па поўдні Гомельшчыны — і не без поспеху. На асобных свідравінах атрымана нафта вельмі высокай якасці.

Разам з павелічэннем пошукавых работ калектыў аб'яднання «Беларуснафта» з году ў год нарошчвае аб'ём нафтаздабычы, інтэнсіўна вядзе распрацоўку наяўных радовішчаў. З таго дня, як быў здадзены дзяржаве першы мільён тон нафты, прайшло няпоўных пяць гадоў, а сёлета агульная здабыча паліва складае 20 мільёнаў тон. Беларусь пакінула ззаду многія вядомыя нафтавыя раёны краіны па здабычы і не мае сабе роўных па прыросце адбору паліва з радовішчаў. За гэту пяцігодку намячаецца здабыць 34 мільёны тон нафты. На канец 1975 года прамысловікі давядуць нафтаздабычу да 8,5 мільёна тон у год. Лічбы ўнушальныя, але геолагаў зараз непакоіць праблема, як, не зніжаючы тэмпаў здабычы, падоўжыць жыццяздольнасць радовішчаў.

Іосіф Станіслававіч разгарнуў карту промыслаў і ўзяў чысты аркуш паперы.

— Можна было браць нафту самацёкам з многіх свідравін. Але пластавы ціск упаў, і мы вымушаны ставіць помпы. Прымаем меры для планавага запампоўвання вады ў пласты, што дазволіць палепшыць аддачу нафты. Нам спатрэбяцца дадатковыя капіталаўкладанні, на што не вельмі ахвотна ідзе Міністэрства нафтавай прамысловасці СССР. А становішча стварылася сур'ёзнае. Малымі сіламі нафту ўзяць ужо цяжка, хаця і можна, але гэта прывядзе да хуткага збяднення радовішчаў.

ГЕАГРАФІЧНАЯ абумоўленасць беларускага нафтавага раёна, блізкасць дарожных камунікацый, нафтаправода «Дружба» стварылі спрыяльныя ўмовы для хуткага яго асваення з параўнаўча невялікімі капітальнымі выдаткамі.

Тэмпы нафтаздабычы ўзрасталі, а на ўпарадкаванне радовішчаў звярталі мала ўвагі. Іх эксплуатавалі, нават не складаючы праектаў на распрацоўку. Усё гэта прывяло да таго, што ў 1970 годзе план па здабычы нафты не быў выкананы.

Калі ў першыя гады нафта ішла самацёкам, так званым «спосабам фантанавання», то цяпер давялося пераводзіць здабычу на механізаваны метад. Фарсіраваны адбор нафты без падтрымання належнага ціску ў пластах прывёў да поўнага затухання фантанаў на ўсіх свідравінах.

Справа ў тым, што ў апошні час эксплуатацыя нафтанараджэнняў праводзіцца з парушэннем норм, прадугледжаных тэхналагічнымі праектамі. Напрыклад, у 1964 годзе было запампавана 138,5 тысячы кубічных метраў вады пры плане 150 тысяч. А нафтаздабыча ўзрасла за гэты час у пяць разоў. У 1968 годзе недапампавалі вады больш як на паўмільёна кубаметраў, а ў 1970 годзе яшчэ больш. Асабліва трывожнае становішча склалася на Асташкавіцкім радовішчы. У сямідзесятым годзе тут запампавалі толькі 48 працэнтаў вады да плана пры вялікім адборы нафты. Штомесячнае нарошчванне здабычы з гэтага самага багатага радовішча без адпаведнай воднай кампенсацыі прывяло да рэзкага падзення сутачнага адбору нафты.

Як сведчыць акт камісіі, у склад якой увайшлі Э. Махмудбекаў — начальнік упраўлення тэхніка-эканамічнага аналізу, В. Стасенкаў — начальнік аддзела разведкі геалагічнага ўпраўлення — абодва з Міністэрства нафтавай прамысловасці СССР, Н. Котаў — інспектар аддзела цяжкай прамысловасці Камітэта народнага кантролю СССР, В. Староў — інспектар Камітэта народнага кантролю БССР і іншыя, у аб'яднанні «Беларуснафта» **дапускалі грубае парушэнне праектаў і навуковых асноў распрацоўкі радовішчаў, сістэматычныя зрывы іх абсталявання ў адпаведнасці са свідраваннем эксплуатацыйных і нагнятальных адтулін, а таксама сур'ёзныя недахопы ў арганізацыі эксплуатацыі наяўнага фонду свідравін.** (Падкрэслена мною — **І. С.**).

Спецыялісты сцвярджаюць, што добрыя калектарскія асаблівасці пласту беларускага нафтавага раёна дазвалялі весці іх распрацоўку з высокімі адборамі нафты пры невялікай колькасці свідравін. Гэта важна, калі ўлічыць, што кожная свідравіна каштуе дзяржаве некалькі сотняў тысяч рублёў. Але кіраўніцтва аб'яднання і нафтагазаздабывальнае ўпраўленне «Рэчыцанафта» не забяспечвала належных умоў эксплуатацыі. Спрыяльныя моманты завадня радовішчаў упушчаны. Цяпер геолагі занепакоены высокай калектарскай праводнасцю пластоў. Інтэнсіўнае запампоўванне вады можа прынесці ўжо не карысць, а шкоду. Не выключаецца магчымасць адсякання нафтавага пласту вадою. Пагроза такая існуе. Гэта намнога ўскладніць нафтаздабычу. Ужо цяпер на некаторых свідравінах нафта паступае з вадою. Даводзіцца будаваць установкі для яе аддзялення.

Выклікае трывогу тое, што памылкі па здабычы падземных скарбаў зноў паўтараюцца. Вішанскае радовішча другі год знаходзіцца ў «выпрабавальнай» эксплуатацыі. Водазабор, які ёсць, можа даваць тры тысячы кубаметраў вады ў суткі, а па плане трэба дванаццаць тысяч. Не прыняты меры па утылізацыі газу. У першыя два гады яго тут згарала 120 тысяч кубаметраў у суткі. Зараз, праўда, гэтая лічба зменшана напалавіну. Але ці пагаспадарску каштоўным палівам грэць неба, калі да Васілевіцкай ДРЭС рукою падаць?

— Згодзен,— прызнаўся начальнік вытворчага аддзела па здабычы нафты і газу Валерый Пятровіч Худобін.— Гэта элемент «праектнай анархіі». Бачыце, нашы навуковыя арганізацыі плануюць завадненне і абсталяванне радовішчаў на другі год эксплуатацыі. А без праекта мы не можам атрымаць асігнаванні ад банка на ўзвядзенне нафта-і газаправодаў, вадаводаў. Навука, так сказаць, адстае ад жыцця. Геолагі, напрыклад, адкрылі новае радовішча. Выкарыстоўваючы дадзеныя геолагаў і сейсмаразведкі, мы заказваем праект на распрацоўку. У працэсе прамысловага рассвідравання плошчы выяўляецца зусім іншая канфігурацыя залягання нафты. Ад зробленага праекта, па сутнасці, нічога не застаецца. А план давай. Ад таго, што своечасова не завадзнілі, узнікаюць праблемы тэхналагічнага парадку — прыходзіцца пераводзіць свідравіны на механізаваны спосаб здабычы. Каб весці эксплуатацыю правільна, трэба пасля разведачнага свідравання адразу складаць праект або схему сістэмы запампоўвання вады і ўтылізацыі газу. Безумоўна, гэта замарудзіць тэрміны і тэмпы здабычы. Але затое мы атрымалі б з кожнага радовішча дадаткова мільёны тон нафты, прытым таннай. Не будавалі б часовых збудаванняў, што каштуе нам вялікую капейку. Але з нас патрабуюць нафту любой цаною. Дзе ж выйсце? Трэба нам мець свой навукова-даследчы інстытут, каб пытанні разведкі і эксплуатацыі вырашаць эканамічна і аператыўна. Цяпер жа мы залежым ад украінскага навукова-даследчага інстытута. Яго аддзяленне, што створана пры аб'яднанні, не мае ні спецыялістаў у дастатковай колькасці, ні базы. Тэрміны распрацоўкі праектаў, як правіла, зацягваюцца. І далей. Нас пастаянна падводзіць трэст № 2 «Саюзгазпрамбуда». Ён у 1971 годзе не здаў у эксплуатацыю ніводнага трубаправода. Вадавод «Віша-Давыдаўка» працягласцю 31 кіламетр мы павінны былі атрымаць у трэцім квартале мінулага года, але ён не закончаны і сёлета. Выклікае трывогу будаўніцтва ўстаноўкі па падрыхтоўцы нафты. Яе ўзвядзенне пачалося ў 1968 годзе. Работы шмат. Трэба асвоіць яшчэ 440 тысяч рублёў. Але на аб'екце не адчуваецца пускавога рытму, больш таго: трэст, замест таго, каб павялічыць колькасць рабочых, зняў з аб'екта некалькі брыгад.

ПАМЯТАЮ РЭЧЫЦУ 1964—65 гадоў. Горад нагадваў шматнацыянальны ўсходні базар. Ля вагончыкаў, дзе часова размясціліся канторы нафтавікоў, натоўпы людзей. Сярод прыезджых цярліся і мясцовыя жыхары, асабліва моладзь. Нафта захапіла ўсіх. Нафтавікам аддавалася асаблівая пашана. Выйсці замуж за свідравальшчыка лічылася за гонар. З'явіліся новыя прафесіі: аператар па здабычы нафты, вышкамантажнік, тампанажнік, слесар кантрольна-вымяральных прыбораў... Тэрмінова ствараліся курсы па падрыхтоўцы спецыялістаў. Пацягнуліся на новыя промыслы і «бічы», працоўныя кніжкі якіх пухлі ад укладышаў, але доўга яны не затрымліваліся. «Біч» ёсць «біч». Атрымаў пад'ёмныя і памінай як звалі.

Мяне зацікавіла цякучасць інжынерна-тэхнічных работнікаў. 1964 год — звольнілася 96 чалавек, 1968—121, 1969—144, 1970—154, 1971—166 чалавек. Уцечка кадраў тлумачыцца кіраўніцтвам аб'яднання тым, што не хапае жылля. Трэба заўважыць, што амаль усе спецыялісты прыехалі ў Беларусь па выкліку, значыць, атрымалі на працягу года-двух кватэры. Відаць, не ў гэтым справа.

І ўсё ж, як бы там ні было, калектыў нафтаздабытчыкаў і свідравальшчыкаў стварыўся. З Татарыі, Башкірыі, Закаўказзя прыехалі на асваенне новага радовішча выдатныя майстры сваёй справы.

На лепшых узорах свідравання выхоўваліся нацыянальныя кадры. На вучобу ў інстытуты атрымалі пуцёўкі многія перадавыя рабочыя, адкрыўся вучэбны камбінат. Ужо летась ён выпусціў рабочых у два разы больш, чым намячалася.

Але пытанне з падрыхтоўкай кадраў яшчэ поўнасцю не вырашана. Вучэбны камбінат не мае свайго памяшкання, базы.

КАЛІ НАСТУПАЕ ЗМРОК, на поўдзень ад Рэчыцы небасхіл азараецца барвовымі блікамі. Гэта палае газавы факел. Не год палае, не два, а сем. Агонь знішчыў мільярды кубаметраў газу і разам з ім эфірныя рэчывы—бензін, іншыя каштоўныя кампаненты.

Наяўнасць газа-бензінавага прадпрыемства дала б магчымасць поўнасцю утылізаваць спадарожны газ, атрымаць тысячы тон высокаякаснага бензіну, шмат іншых элементаў.

Прамысловая распрацоўка нетраў паслужыла прычынай узнікнення шэрагу праблем, якія датычаць аховы прыроды. Адходамі нафтаздабычы забруджваюцца вадаёмы, землі. Калгасам і саўгасам не вернуты сотні гектараўворнай зямлі і лугоў. Участкі, дзе вялося свідраванне, не прыведзены ў парадак.

І. СІНЯЎСКІ.

## НОВЫЯ НАРОДНЫЯ

**Калегія Міністэрства культуры БССР прысвоіла ганаровае званне НАРОДНАГА агіттэатру «Полымя» Стаўбцоўскага раённага дома культуры і драматычнаму калектыву Тапачынскага раённага дома культуры.**

●

Агіттэатр «Полымя» за 15 гадоў свайго творчага жыцця больш двух тысяч разоў выступаў перад працоўнымі свайго раёна, Мінскай вобласці і за межамі рэспублікі. Калектыў — нязменны ўдзельнік шматлікіх конкурсаў і аглядаў гэтага баявога жанру самадзейнага мастацтва, неаднаразова атрымліваў дыпломы і граматы. Паспяхова выступаў калектыў на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве, па Цэнтральным тэлебачанні, на рэспубліканскай дэкадзе тэатральнага мастацтва. Узначальвае калектыў усе гэтыя гады таленавіты, ініцыятыўны работнік культуры Дзіна Кухарава.

У праграмах выступленняў агіттэатра шырока адлюстравана жыццё і праца калгаснікаў, рабочых саўгасаў і прадпрыемстваў раёна. Ужо нават назвы праграм гавораць аб іх надзённасці і баявітасці: «Хто не працуе, той не есць». «Не праходзьце міма», «Дзень вясновы год корміць», «З вожыкам па калгасах». Апошнія работы калектыву—«А гармонік грае, грае» і «Мой родны кут».

●

25 гадоў споўнілася тэатральнаму калектыву Талачынскага раённага дома культуры. Апошнія гады ім кіруе выпускнік Магілёўскага культасветвучылішча Аляксей Савік. Вось ужо на працягу двух дзесяцігоддзяў талачынцам сістэматычна памагае заслужаны артыст рэспублікі, артыст драматычнага тэатра імя Я. Коласа Б. Левін.

У рэпертуары калектыву —«Зоя» М. Алігер, «Барабаншчыца» А. Салынскага, «Лявоніха на арбіце» і «Трыбунал» А. Макаёнка і іншыя спектаклі. Зараз пачаліся рэпетыцыі спектакляў па п'есах А. Астроўскага «Не было гроша, ды раптам алтын» і В. Гарбацэвіча «Чырвоныя кветкі Беларусі».

Артысты - аматары часта выязджаюць у калгасы і саўгасы, паказваюць ім свае прэм'еры. Творчыя поспехі калектыву неаднаразова адзначаліся граматамі, дыпломамі на абласных конкурсах і аглядах.

